PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 27 (2251) Год XLIV Беласток 4 ліпеня 1999 г. Цана 1,20 зл.

## У цяні вялікай вайны

Яўген Міранов

3 ліпеня міне 55-я гадавіна вызвалення Мінска савецкімі войскамі з-пад нямецкай акупацыі. Гэтую нагоду прэзідэнт Лукашэнка палічыў настолькі важнай, што два гады таму дату 3 ліпеня ўстанавіў дзяржаўным святам, ліквідуючы аднachасова папярэдняе нацыянальнае свята 27 ліпеня — дзень аб'яўлення Вярхоўным Саветам БССР у 1990 г. суверэнітэту Беларусі. З пункту гледжання савецкага апаратчыка ўсё гэта зразумелае. Само слова суверэнітэт ужо гучыць кожнаму савету злавесна, таму, калі іх прадстаўнік атрымаў амаль неабмежаваную ўладу, лагічным стала, што ў Беларусі будуць шанавацца і адзначацца савецкія перамогі і традыцыі.

У 1944 годзе сітуацыя ў Беларусі была яшчэ больш складанай чым сёння. Няпраўда, што ўсе жыхары гэтай краіны чакалі Чырвонай Арміі і падтрымлівалі чырвоных партызан. Сотні тысяч беларусаў жадалі перамогі немцам, нягледзячы на зверскі характар акупацыйнай улады. Шмат людзей лічыла акупацыйны гітлераўскі рэжым не горшым чым сталінскі. Падтрымцы немцам спрыяла перш за ўсё тое, што стваралі яны ілюзію на развіццё нацыянальнага жыцця і выканалі шмат жэстаў у адрас беларускіх нацыянальных эліт. Існавала беларускае школьніцтва, вялася выдавецкая дзейнасць на роднай мове. Амаль у кожным раёне выдавалася беларуская газета. У акупаваным Мінску ад 1943 г. лунаді бел-чырвона-белыя сцягі і віднеў герб Пагоня. У рады ўзніклага ў палове 1943 г. Саюза беларускай моладзі за некалькі месяцаў уступіла звыш 40 тыс. дзяўчат і хлопцаў. Большасць з іх хацела нешта рабіць для Беларусі. Калі ў студзені 1944 г. была аб'яўлена мабілізацыя ў рады Беларускай краёвай абароны, з'явілася 42 тыс. маладых людзей гатовых змагацца з саветамі нават у якасці саюзнікаў гітлераўскай Нямеччыны. Падзеі гэтыя праходзілі ў часе, калі ўсім было вядома, што немцы прайграваюць вайну і калі шмат калабарацыяністых фарміраванняў, у тым руская дывізія СС палкоўніка Радыёнава, якія змагаліся на баку фашыстаў, мяняла фронт і саюзнікаў. Наіўнасць тых, якія падтрымалі пранямецкія фарміраванні не была большай чым беларускіх камсамольцаў, якія змагаліся за савецкую „радзіму" і панаванне Цанавы, Берыі, Сталіна ці нейкага Панамарэнкі. Тыя першыя насілі на вопратцы нацыянальныя сімвалы і верылі ў ідэю незалежнай у будучыні Беларусі, другія — серп і молат і адабралі бальшавізм з усімі яго паслядоўнасцямі.

[працяг ☞ 4]


*Белавежскі краявід.* Фота Янкі ЦЕЛУШЭЦКАГА

**Лінія падзелу на „роўных і раўнейшых" становіцца ўсё больш выразнай...**

## Абразок з культуры

Ада Чачуга

**Нарэшце (!)** у пададзенай у прэсе праграме чарговых Дзён Беластока, што праходзілі ад 17 да 20 чэрвеня, сярод такіх імпрэз, як паказ моды, сесія эсперантыстаў, кірмаш на Яна, канцэрты духавых аркестраў, калектываў рок-музыкі і музыкі старадаўняй, як эксперыментальнае нямецкае кіно ў галерэі „Арсенал" і выстаўка мастацкіх прац у Доме культуры, як сустрэча бізнесменаў Усход — Захад і выстаўка „Беласток паштовы", як адкрыты дзень у Музеі войска і палявая імша пры помніку ахвяр у Грабоўцы, можна было прачытаць, што а $14^{30}$ перад Драматычным тэатрам А. Вянгеркі адбудзецца „прэзентацыя культуры нацыянальных меншасцей".

У нядзелю а чатырнаццатай дзесяць на пляцы перад тэатрам было зусім пуста. Па тым, што пры ўваходзе на пляц стаяла машына гарадской аховы з чатырма мужчынамі ў мундзірах я зразумела, што нешта ўсё ж тут мае адбыцца. Што гэта будзе — ахоўнікі парадку не ведалі.

Уводдалі я ўбачыла, што перад сходамі тэатра корпаліся двое маладых людзей, ладзячы гукаўзмацняльную апаратуру. Падышоўшы бліжэй, я ўбачыла маладзёжны калектыў „Каласкі" Алы Дубец і падышла да іх. Дзяўчаткі стаялі і гутарылі, трымаючы на плячах свае касцюмы, павешаныя на вешалках у спецыяльных мяшках.

Юля Баравік, якая сёлета закончыла VI ліцэй у Беластоку і паступіла на англістыку ў Гродна, пачала са мной бойка гутарыць па-беларуску, на вельмі добрай літаратурнай мове. Аказваецца, што і беластачане могуць навучыць сваіх дзяцей гаварыць па-беларуску, калі самі не цураюцца роднай мовы, падумала я. Некаторыя дзяўчаткі маюць добрую музычную падрыхтоўку. Вось, напрыклад, Іаанна Семяняка перайшла ўжо ў V клас сярэдняй музычнай школы, дзе вучыцца іграць на фартэпіяна, а яе сястра Магда будзе ўжо вучыцца ў II класе той жа школы па класу габою. Разам з імі мелі спяваць маладзенькія „Каласочкі" — дзяўчаткі з падставовай школы, — і я ўбачыла Касю Сасну, унучку айца Рыгора з Рыбалаў.

Зараз жа падышлі і ўсе Шведы: Віктар, Валянціна ды іх няўрымслівая трэцякласніца Наталька, якая памагае свайму тату разлажыць яго кніжкі з розных гадоў на століку; так, здаецца, і кажа: „Купляйце кніжкі майго таты, а ён будзе вам іх падпісваць!" Я бяру ў рукі „Вершы Натальцы" і жартую: „Не ведаеш, Наталька, што гэта за дзяўчынка на вокладцы?" „Дык гэта ж я, — адказвае малая. — Пэўна, вы мяне не пазналі, бо я змяніла прычоску: тады ў мяне грыўкі не было!"

Хутка ўжо паявіліся за столікамі і Васіль Петручук са сваімі дзвюма кніжкамі, і Уладзіслаў Пятрук з альбомам „Беласток". Побач — Анна Радзюкевіч са сваёй кніжкай „Ścieżkami prawosławia. Białostocczyzna".

Тым часам мінула чатырнаццатая трыццаць, а людзі не прыходзілі.

Каля пятнаццатай Ала Дубец дала загад сваім дзяўчаткам стаць на сходы і спяваць. Пасля заспяваў дуэт з „Каласочкаў" і моцным голасам Ала заспявала сама. А потым ізноў выступіў увесь калектыў. Так, як і сказала мне ў самым пачатку Ала: „Спяваць будзем многа і доўга!"

Пачуўшы гукі музыкі, людзі, якія ішлі праз парк, пачалі затрымлівацца, слухаць. Відаць было, што некаторыя ўсё ж прыйшлі спецыяльна дзеля гэтай наго-

[працяг ☞ 8]

## Пажарная неразбярыха

Канфлікт вакол пажарнага дэпо ў Малінніках працягваецца ўжо некалькі месяцаў. Пакрыўджанымі адчуваюць сябе пажарнікі-дабравольцы, якія не маюць магчымасці прымаць удзелу ў выратавальных акцыях. Калі Управа гміны адмовілася вырашыць набалелую праблему, пажарнікі 9 чэрвеня склікалі пасяджэнне свайго гміннага праўлення.

[нязгода ☞ 3]

## Аповед пра Сяргея Хмару

У 1930 годзе Сяргея Хмару выбіраюць сакратаром пасольскага клуба „Змаганне" ў Пінску, дзе ён спрабаваў закласці беларускую гімназію і выдаваць часопіс. З 1931 года працаваў інструктарам Галоўнай управы ТБШ у Вільні, але ў 1932 годзе яго арыштоўвае польская дэфензіва і разам з Браніславам Тарашкевічам саджае ў турму.

[біяграфія ☞ 4]

## Увесь час трэба змагацца

Скончыўшы вучобу ў падставовай школе, вырашыў я, што не буду далей вучыцца з невідучымі, а на выбар бел-ліцэя мела ўплыў і радня, якая вучылася ў гэтай школе, — расказвае Аркадзь Плева. — Праблемаў з вучобай у ліцэі не было. Асабліва любіў я гуманістычныя прадметы. Па беларускай мове не было падручнікаў, але памятаў я тое, што было на ўроках.

[самаахвярнасць ☞ 4]

## Ікона Гадышэўскай Божай Маці

Памяць аб ікone сярод праваслаўных захавалася па сённяшні дзень. На другі дзень Святой Тройцы служацца малебны перад копіяй іконы Гадышэўскай БМ. Трэба адзначыць, што пры царкве ў Гадышэве ў 1790-1874 гг. існавала царкоўнае брацтва, аднаўленае ў 1881 г. У 1908 г. налічвала яго 353 члены з ваколіц Бельска, Бранска і Гродзіска.

[нарыс ☞ 9]

## Зацьменне Сонца

У Беластоку пачнецца яно 11 жніўня 1999 года ў 11 гадзін, 35 хвілін і 51 секунд, а скончыцца ў 14 гадзін, 10 хвілін і 35 секунд. Сярэдзіна зацьмення наступіць у 12 гадзін, 53 хвіліны і 58 секунд і ў той момант 82,2% дыяметра Сонца будзе закрыта. Лепш відаць будзе зацьменне ў паўднёвай Польшчы — у Кракаве і Катавіцах будзе закрыта 92% сонечнага дыяметра

[астранамічная з'ява ☞ 10]

# Беларусь — беларусы

## Някляеў вызначыўся

Як паведаміла інфармацыйнае агенцта БелаПАН, старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі Уладзімір Някляеў 20 чэрвеня заявіў у Варшаве, што не вернецца ў Беларусь. У польскую сталіцу Някляеў прыехаў для ўдзелу ў міжнародным семінары літаратараў.

Сваё рашэнне старшыня беларускіх пісьменнікаў тлумачыць тым, што яму стала вядома пра магчымую праваканцыю супраць яго з боку беларускіх улад. Някляеў баіцца, што на радзіме яго мог чакаць лёс былога прэм'ер-міністра Міхаіла Чыгіра, які зараз сядзіць у турме. Таксама ён заявіў пра немагчымасць далейшага супрацоўніцтва з рэжымам Лукашэнкі.

Да гэтага часу Уладзімір Някляеў быў ці не адзіным беларускім паэтам, вершы якога вядомыя сваёй літаратурнай вартасцю, які спрабаваў паразумецца з існуючай на Беларусі ўладай. Ён удзельнічаў у рознага кшталту афіцыйных культурных мерапрыемствах, выступаў у прэзідэнцкім „парламенце". Абранне Някляева старшынёй пісьменніцкай арганізацыі ў не апошнюю чаргу было звязана са спадзяваннямі літаратараў на тое, што ён знойдзе кампраміс з рэжымам і не дапусціць да знішчэння Саюза пісьменнікаў.

За „гульні" з уладамі, якія мэтанакіравана знішчаюць у Беларусі ўсё беларускае, да Някляева з падазронасцю адносіліся некаторыя прадстаўнікі нацыянальнай апазіцыі. Аднак, як высветлілася, старшыня Саюза пісьменнікаў апынуўся паміж двума агнямі. Як ён не імкнуўся даказаць сваю лаяльнасць, падуладныя СМІ ўсё роўна ахрысцілі яго „нацыяналістам". Яго абвінавачвалі за ўдзел у ПЭН-клубе, за апазіцыйнасць газеты „Літаратура і мастацтва", рэдактарам якой ён быў нейкі час, за тое, што часопіс „Крыніца", які Някляеў таксама рэдагаваў, друкаваў творы „не савецкіх" аўтараў.

Відаць урэшце Някляеў не вытрымаў. 8 чэрвеня ў газеце „Народная воля" з'явіўся яго вялікі артыкул „Антиподы и эфиопы, или Документальная история о том, как „совместно" вырабатывали конкретные решения Владимир Заметалин — вице-премьер белорусского правительства, и Владимир Некляев — председатель Союза белорусских писателей". У ім тлумачацца дзеянні Някляева і раскрываецца сутнасць палітыкі былога палкоўніка савецкага войска Замяталіна, які так кіруе беларускай культурай, каб яе як найхутчэй не стала. А праз два тыдні старшыня Саюза пісьменнікаў вырашыў стаць палітычным эмігрантам.

**Зміцер Кісель**

## Прэм'ер атрымаў „п'яную" вымову

23 чэрвеня прэзідэнт Беларусі правёў спецыяльную нараду па пытанні вытворчасці і продажу алкаголю і тытунёвых вырабаў. Гэта было ўжо трэцяе падобнае мерапрыемства, калі вышэйшае кіраўніцтва дзяржавы вырашала, як больш грошай зарабіць на спойванні беларускага народа. Лукашэнка быў вельмі незадаволены працай сваіх падначаленых. Ён аб'явіў строгую вымову прэм'ер-міністру Сяргею Лінгу, строга папярэдзіў кіраўніка справамі прэзідэнта Міхаіла Мясніковіча і дзяржаўнага сакратара Віктара Шэймана.

Па звестках газеты адміністрацыі прэзідэнта „Советская Белоруссия", у 1997 годзе на кожнага жыхара краіны прыпадала 7,7 літраў алкаголю, у 1998 ужо 8,5 літра. За 5 месяцаў гэтага года продаж лікёра-гарэлачных вырабаў павялічыўся на 8%, віна амаль у паўтары разы. Аднак прадпрыемствы, якія вырабляюць гарэлку і віно выкарыстоўваюць не больш 66% сваіх магутнасцей.

Аляксандра Лукашэнку вельмі турбуе, што яшчэ шмат алкаголю спажываецца абмінаючы дзяржаву — праз нелегальных гандляроў і вытворцаў. Прэзідэнт загадаў спыніць такую практыку. „Всё должно быть направлено на интересы наших людей", — сказаў ён на нарадзе.

Кіраўнік дзяржавы абураўся і тым, што вялікую колькасць алкаголю складае няякасная прадукцыя, але вельмі танныя напоі, а добрае віно каштуе велізарныя грошы і недаступнае людзям. Ён загадаў наладзіць вытворчасць таннага віна, каб яго кошт не перавышаў гарэлкі.

Яшчэ „горшае" становішча з тытунём. Большасць беларускіх курцоў аддаюць перавагу імпартаваным (ды яшчэ нелегальна) цыгарэтам. Хаця ж яны даражэйшыя за айчынныя, але значна якаснейшыя. Галоўны афіцыйны пастаўшчык тытунёвых вырабаў на Беларусі — Гродзенская тытунёвая фабыка. У былым Савецкім Саюзе яе прадукцыя лічылася самай лепшай. Зараз, калі ў іншых краінах пастараліся сумесныя прадпрыемствы з вядомымі сусветнымі тытунёвымі канцэрнамі, гродзенскія цыгарэты не вытрымліваюць канкурэнцыі. У сярэдзіне 90-х гадоў шмат замежных фірмаў хацелі выкупіць гродзенскую фабрыку. Але супраць гэтага выступілі яе работнікі. Афіцыйна яны баяліся, што могуць быць скарачэнні, а ў прыватных размовах казалі, што капіталісты не дазволяць красці. Продаж крадзеных цыгарэтаў заўсёды быў ці не галоўным заробкам працаўнікоў тытунёвай фабрыкі. А. Лукашэнку вельмі спадабалася адмова працоўных „прадавацца" Захаду і ў 1996 годзе ён забараніў усе размовы пра прыватызацыю Гродзенскай тытунёвай фабрыкі.

Зараз кіраўніцтва краіны не супраць сумесных прадпрыемстваў з замежнымі фірмамі, але эканамічная сітуацыя ў краіне запалохвае ўсіх інвестараў.

На нарадзе Аляксандр Лукашэнка загадаў сілавым структурам у бліжэйшы час спыніць нелегальны гандаль цыгарэтамі. Чакаецца, што ў бліжэйшы час будзе аб'яўлена поўная манаполія дзяржавы на продаж алкаголю і тытуню.

**Зміцер Кісель**

## Ударым Саюзам Расіі і Беларусі па дэбілізацыі і дэградацыі моладзі

**23 чэрвеня у Нацыянальным прэс-цэнтры адбыўся круглы стол на тэму „Незалежная Беларусь і стабільнасць свету пасля другой сусветнай вайны", прымеркаваны да Дня незалежнасці рэспублікі. У мерапрыемстве прынялі ўдзел прадстаўнікі Інстытута сацыяльна-палітычных даследаванняў, Акадэміі кіравання пры парэзідэнце РБ і факультэта міжнародных адносін Беларускага дзяржаўнага універсітэта.**

Найбольш цікавым аказалася выступленне Віталія Смірнова, загадчыка кафедры знешняй палітыкі і дыпламатыі Акадэміі кіравання пры прэзідэнце РБ, надзвычайнага і паўнамоцнага пасла СССР у адстаўцы. Паводле яго слоў, пачынаючы з лютага 1946 года (пасля вядомага выступлення Чэрчыля) і па сённяшні дзень Захад што і раз намагаецца ўцягнуць краіны цяпер ужо былога СССР у трэцюю сусветную вайну. Прычым робіцца гэта па некалькіх напрамках. Паводле Смірнова, ваенныя канфлікты ў Югаславіі і Іраку з'яўляюцца часткай гэтага стратэгічнага плана краін Захаду. І суверэнная ці незалежная дзяржава Беларусь можа стаць чарговай „ахвярай" краін НАТО і ЗША. Выратаваць беларусаў у гэтай сітуацыі можа толькі Расія, а дакладней Саюз Расіі і Беларусі.

Загадчык кафедры знешняй палітыкі і дыпламатыі Акадэміі кіравання пры прэзідэнце РБ раскрыў перад журналістамі яшчэ адзін каварны план Захаду, які на гэты раз датычыць непасрэдна РБ. Як заявіў Смірноў, у лютым 1997 года дзяржаўны дэпартамент ЗША прыняў дакумент з 12 пунктаў пад назвай „Новая палітыка ЗША ў адносінах да Беларусі". Сутнасць яе заключаецца ў правядзенні (знутры) дыверсійнай дзейнасці ў адносінах да рэспублікі. Народ Беларусі, на думку Смірнова, можа выраздзіцца як нацыя. Напрыклад, беларусаў, як абарыгенаў, могуць папросту „спаіць". „Я лічу, галоўная задача нашай краіны, — сказаў Віталій Смірноў, — выратаваць народ Беларусі ад выраджэння і дэбілізацыі. У наяўнасці — фактычная дэградацыя моладзі". І як лічыць былы дыпламат, усяму вінавата гарэлка. Прычым у падтрымку гэтых слоў былі прыведзены такія вось лічбы: „Сярэдняе спажыванне спірту на душу насельніцтва сёння ў Беларусі састаўляе 25 літраў, а да развалу СССР гэта лічба састаўляла 7 літраў...". І далей: „... мы не кажам праўды народу, і ў гэтм вінаваты перш за ўсё журналісты"...

Пры чым тут Захад, застаецца толькі здагадвацца, але цэны на гарэлку і каўбасу ў сваёй дзяржаве мы ж самі ўстанаўліваем.

**Анатоль Нязванаў**

*Белорусская деловая газета, 24.06.1999 г.*

## Хутка ўсе будуць хадзіць пешшу

Тое што ў Беларусі перыядычна ўзнікаюць праблемы з аўтамабільным палівам стала ўжо звычайнай з'явай, але такога крызісу як зараз яшчэ не было.

Звычайна бензін знікаў падчас пасяўной і жніва. Усё паліва накіроўвалася ў калгасы. Але тады, хаця ж з цяжкасцю, уладальнікі аўтамабіляў маглі запраўіцца. З 20 чэрвеня на запраўачных станцыях Беларусі паліва знікла поўнасцю. Калі раней уладальнікі аўтамабіляў з дызельнымі рухавікамі мелі менш цяжкасцяў, дык зараз знікла і дызельнае паліва.

Напрыклад у Гродне 21-24 чэрвеня бензін не прадавалі нават па крэдыце (г.зн. тым фірмам, якія заплацілі за паліва раней і запраўляць іх павінны абавязкова). Бензін адпускаўся толькі міліцыі, пажарным і вадзіцелям машын медычнай хуткай дапамогі. Тым, каму ехаць было неабходна, заставалася запраўляцца за валюту. Некалькі месяцаў назад у Беларусі, каб папоўніць бюджэт валютай, быў уведзены дазвол на продаж бензіну за долары. Само гэта было абсурдным, бо набыць валюту ў абменных пунктах немагчыма без спецыяльнага дазволу. На запраўку аўтамабіляў такі дазвол не даецца. Ды і развітвацца са здабытымі цяжкай, а некалі і рызыкоўнай працай, доларамі ніхто не жадаў. Таму раней на валютных запраўках кліентаў не было. Зараз там стаяць чэргі.

Калі сітуацыя зменіцца не вядома. Кіраўніцтва нафтабазаў адмаўляецца ад каментарыяў на гэты конт. Застаецца толькі здагадвацца аб прычынах паліўнага крызісу.

Магчыма дзяржава робіць запасы перад жнівом або хоча выцягнуць з людзей больш долараў. Ёсць яшчэ варыянт — хутка можна чакаць значнага падаражання паліва, бо зараз у сярэднім літр бензіну каштуе 25 цэнтаў, што не адпавядае сусветным коштам. Але ў параўнанні з сярэднім заробкам беларусаў і гэтая цана вялікая.

**Зміцер Кісель**

## Малебны за беларускую мову

Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі Філарэт, патрыяршы экзарх усе Беларусі благаславіў правядзенне ўрачыстых малебнаў за беларускую мову, прысвечаных дзесятым угодкам Таварыства беларускай мовы. Урачыстыя набажэнствы адбудуцца ў двух праваслаўных храмах сталіцы – Свята-Духавым кафедральным і Свята-Петрапаўлаўскім саборах. У малебны ўключана „Малітва за беларускую мову", напісаная летась вучаніцай 10 класа 169-й школы Заводскага раёна Мінска Марыяй Заяц. Школьніца просіць Усявышняга „зрабіць так, каб мы, дзеці Беларусі, ніколі не пакідалі нашае беларускае мовы, а наадварот, усім сэрцам любілі яе; паслаць беларускаму народу сваіх служыцеляў, якія праведным жыццём вялі б наш народ да лепшай долі, да свядомага служэння Айчыне".

*Радыё 101,2 — 22 чэрвеня 1999 г.*

## Новы старшыня Цэнтра

21 чэрвеня г.г. прайшоў агульны сход сяброў-заснавальнікаў Цэнтра грамадзянскай адукацыі „Польшча-Беларусь", які быў прысвечаны мерытарычна-фінансавай справаздачы Управы гэтай установы. На гэтым жа сходзе ад удзельніцтва ва Управе адмовіўся ейны старшыня Артур Смулка. На яго месца сябры-заснавальнікі выбралі 30-гадовага **Марціна Рэмбача**.

М. Рэмбач вядомы перш за ўсё як публіцыст — піша для шэрагу беластоцкіх газет і часопісаў. Актуальна працуе ў страховачнай кампаніі. **(ам)**

# Падсякаюць сук...

**Пра сітуацыю ў сельскай гаспадарцы з ветэрынарам, чыноўнікам і кладаўшчыком размаўляе Міхал Мінцэвіч.**

**Сяляне чакаюць пенсіі**

— Сітуацыя ў жывёлагадоўлі ў Падляшскім ваяводстве надта складаная, — гаворыць **Юзаф БЖАНА**, лекар ветэрынарыі з Орлі і павятовы радны. — Падае лік свінаматак, бо няма збыту на парасят. Сяляне таксама пазбываюцца кароў. Напрыклад, у Дубічах-Царкоўных малочныя каровы прадаваліся на зарэз вельмі танна — па 400-500 зл. Цяжка цяпер прадаць цялят і ялавак, лягчэй — бычкоў.

Малако ў нас вельмі таннае і гаворыцца, што з канцом года ў Бельскім павеце малочнатаварныя заводы будуць купляць сыравіну толькі ў буйных пастаўшчыкоў, якія ахаладжанае малако трымаюць у сваіх гаспадарках у спецыяльных танках. Нестабільныя ў нас таксама цэны на збожжа. Селянін Андрэй Міхалевіч з калёніі Антанова прадаўшы 400 тон збожжа страціў ажно 20 тысяч злотых.

Сяляне на вёсках моляцца, каб дачакаць пенсіі, бо толькі яна гарантуе сацыяльную бяспеку. Сярод сялян пераважае погляд, што наш марш у Еўропу не падрыхтаваны адпаведным чынам, у выніку чаго пацярпеў інтарэс айчынных земляробаў. Пры нагодзе афёры з дыяксінам выявілася, што Польшча імпартуе харчовыя прадукты з Захаду. І далей чыноўнікі абманваюць земляробаў і падсякаюць сук, на якім сядзяць сяляне і ўся краіна.

Штораз больш ворнай зямлі застаецца ляжаць аблагамі, штораз больш зямлі перадаецца для аблясення. Прычынай гэтаму з'яўляецца нерэнтабельнасць вырошчвання збожжа, выкліканая высокімі коштамі вытворчасці і нізкімі цэнамі скупкі.

**Высокія падаткі**

— У Арлянскай гміне 1756 гектараў лясоў, — інфармуе **Барбара САВІЦКАЯ**, працаўнік Управы гміны. — Цяпер многія сяляне ахвотны засадзіць лесам менш ураджайную зямлю, бо тады ім не трэба за яе плаціць падаткі. І калі на аблесеных дзялянках раней прадугледжваліся лесанасаджэнні (калі яны знаходзяцца побач лясных комплексаў), тады селяніну вяртаюць грошы за саджанцы. Год таму падаткамі былі абкладзены прысядзібныя ўчасткі, якімі карыстаюцца пенсіянеры. І хаця могуць яны гэтыя ўчасткі запісаць сабе на ўласнасць, адмаўляюцца ад іх увогуле, каб толькі не плаціць падаткаў. У выніку гміне прыбывае зямлі, якая застаецца ляжаць аблогам.

**У складзе, а не на полі**

— У чэрвені ў складзе ГС не павінна ўжо быць мінеральных угнаенняў. Павінны яны быць рассеяны па палях, — тлумачыць кладаўшчык **Аляксей ХАРУЙ**. — Аднак яны ў нас ляжаць. Сёлета прадалі мы напалову менш угнаенняў, чым летась. Да нас галоўным чынам прыязджаюць пенсіянеры, якія купляюць усяго па некалькі мяшкоў угнаенняў. Малодшыя земляробы шукаюць таннейшы тавар у прыватных прадаўцоў, якія абніжаюць цэны па 5 зл. на тоне. Купляюць у нас яшчэ сяляне з Агароднік, бо ім неяк у нас зручней. Побач склада быў пункт скупкі жывёлы, аднак ужо год будзе як яго закрылі.

# Школа ў Семіхочах



Падставовая школа ў Семіхочах распалажаная на ўскраіне вёскі. У невысокім, але абшырным будынку вучыцца зараз больш за семдзесят вучняў. Апрача дзяцей з Семіхочаў прыходзяць яшчэ вучні з Тымянкі, Стоўбцаў, Вулькі-Нурэцкай і Вэрпаля. У наступным школьным годзе лік вучняў узрасце да ста, бо ўлады Нурэцкай гміны плануюць закрыць Падставовую школу ў Клюковічах, а тамашніх вучняў вазіць у Семіхочы. Гімназія паўстала пры Падставовай школе ў Нурцы-Станцы, дзе будуць вучыцца старэйшыя вучні з цэлай гміны. Настаўнікі хвалююцца з прычыны скарачэння колькасці школ і настаўніцкіх штатаў.

— У нас умовы настолькі яшчэ добрыя, што калі будуць дзеці, не павінны ліквідаваць школу, — кажа настаўніца фізкультуры з Семіхочаў Барбара Скібская. — У нас свая сталовая, якая прапануе вучням поўныя абеды. Хаця зараз у нас спалучаныя класы, то нават калі дойдуць вучні з Клюковічаў і павялічыцца лік дзяцей у класах, школьных залаў хопіць. Працаваць у вясковых школах таксама лепш чым у гарадскіх гігантах, а і дысцыпліну цяжка там утрымаць. Да нас прыязджаюць настаўнікі з Беластока, якія вядуць дадатковае навучанне англійскай мове. Нашы вучні вучацца таксама і рускай мове, а даўней — беларускай, але я ўжо не памятаю, калі навучанне ліквідавалася. Ведаю толькі, што настаўніцай беларускай мовы была ў нас Ніна Саламаха.

— Калі я яшчэ вучылася ў Падставовай школе ў Семіхочах, навучанне беларускай мове было з другога па восьмы клас, а беларускай мове вучыла нас спадарыня Ніна Мусюк, а іншых Ніна Пытэль, — успамінае настаўніца з дашкольнага аддзела Галена Швед. — Аднак я ў сямідзесятым годзе закончыла вучобу ў падставовай школе і не памятаю добра, калі перасталі вучыцца беларускай мове, праўдападобна ў пачатку васьмідзесятых гадоў. Паўтара года таму была спроба ўвесці навучанне ўкраінскай мове, але нічога не атрымалася, цяжка было б і вярнуць у школу беларускую мову.

Старэйшыя людзі з Тымянкі ўспамінаюць яшчэ беларускія фэсты і іншыя мерапрыемствы, у якіх прымалі яны ўдзел, і наракаюць, што іх дзеці і на дылекце ўжо не хочуць размаўляць.

**Аляксей Мароз**

*Фота аўтара*

# З вялікай хмары...

Пра пратэст шафёраў на дарожным пераходзе ў Полаўцах гаварылі па Беластоцкім радыё. Я пра гэта пачуў ад знаёмага лесніка з Вулькі-Тэрахоўскай.

— Ніякага пратэсту не было, — гаварыў мне пазней кіраўнік Чаромхаўскага самаўрада, калі я хацеў высветліць справу ў Гміннай управе.

— Ці прыезд некалькіх аўтамабіляў на граніцу і заяўка шафёраў, што яны пратэстуюць лічыцца пратэстам? — пытае войт Міхал Врублеўскі.

— Ды адкуль столькі шуму ў сродках масавай інфармацыі? — цікаўлюся.

— А вы не ведаеце чыіх рук гэта справа? — такім жа пытаннем адказвае спадар Врублеўскі. — Мне вядома. Толькі адзін чалавек з вуліцы Польнай такімі справамі ў нас займаецца. У мінулым годзе задбаў ён, каб сродкі масавай інфармацыі пацікавіліся „пратэстам" жыхароў Чаромхі супраць уезду аўтафураў TIR (у сапраўднасці такога не было). Ён і зараз гэтае робіць.

— Ці няма тады праблемы з платай на экалогію? — пытаю войта.

— Мо яна і ёсць. Але мы гэтага не вырашаем, а толькі беларускі бок. Рашэнне браць па 10 долараў на экалогію паступіла ад брэсцкіх дэпутатаў. Такая стаўка абавязвае на ўсіх дарожных пераходах паміж Рэспублікай Беларусь і Польшчай.

— А вяртаючыся да „пратэсту", як гэта вы называеце, — працягвае мой суразмоўца. — Я не лічу яго чаромхаўскім. Сярод больш шасцідзесяці подпісаў на спіску, прыложаным да прашэння накіраванага Генеральнаму консулу РБ у Беластоку, толькі сем было ўласнаручна падпісаных жыхарамі Чаромхі. Апошнія людзі паходзяць з Гайнаўшчыны, Бельшчыны ці наваколля Сямятыч. А яшчэ скажу вось такое наконт блакіравання граніцы: 24 мая г.г. сапраўды згуртавалася каля дваццаці аўтамабіляў, якіх шафёры прызнаваліся, што ўдзельнічаюць у пратэсце. Гэтыя людзі падтрымліваюць, што „пратэст" надалей працягваецца. Ды гляньце, колькі іх зараз на граніцы. Не больш сямі аўтамабіляў, якія пастаянна змяняюцца. Шафёры паставілі машыны на абочыне дарогі, а самі „адпачываюць" на ўлонні натуры. На маю думку, з гэтага пратэсту найбольшы прыбытак мае прадуктовая крама, якая працуе на граніцы.

Так тлумачылі гмінныя чыноўнікі ў Чаромсе. А што на гэта людзі?

Мясцовае грамадства гаворыць, што 10-доларавая стаўка для польскіх грамадзян сапраўды высокая. Калі беларускі шафёр плаціць усяго чатыры злоты за „чалавечыя" ўмовы (можна ў нас пакарыстацца цёплай вадою і туалетам), дык польскаму турысту трэба плаціць 10 долараў за паветра. І гэта не свежае. Бо за ёлачкамі, куды заходзіць чалавек „за сваёй патрэбай" у час чакання на граніцы з беларускага боку, накапілася столькі непатрэбнага, што аж страшна робіцца! Але звычайнаму чалавеку не паўплываць на гэта.

— З вялікай хмары, малы дождж, — кажуць у народзе. Мне здаецца, што такое можна і сказаць пра пратэст шафёраў у Полаўцах.

**Уладзімір Сідарук**

# Пажарная неразбярыха

У Малінніках Арлянскай гміны маладым людзям не дазваляецца папоўніць рады добраахвотнай пажарнай каманды, а шафёр пажарнай машыны не хоча мець зменшчыка. Такую сітуацыю адабрае мясцовая гмінная радная, якой муж — шафёр пажарнага аўтамабіля — не дае нікому ключоў да пажарнага дэпо.

Канфлікт вакол пажарнага дэпо ў Малінніках працягваецца ўжо некалькі месяцаў. Пакрыўджанымі адчуваюць сябе пажарнікі-дабравольцы, якія не маюць магчымасці прымаць удзелу ў выратавальных акцыях. Калі Управа гміны адмовілася вырашыць набалелую праблему, пажарнікі 9 чэрвеня склікалі пасяджэнне Гміннага праўлення Добраахвотных пажарных каманд.

— Цяперашні шафёр пажарнай машыны з Маліннік Пётр Іванюк заявіў нам, што ён нікому не давярае і ключоў да дэпо не аддасць, — сказаў гмінны камендант пажарных каманд Міраслаў Бало. — У Орлі, напрыклад, дзе я сам працую шафёрам, ключы да дэпо маюць яшчэ пяць пажарнікаў. Зменшчык шафёру пажарнай машыны проста неабходны! А прыцягванне ў рады каманды новых добраахвотнікаў — гэта святы абавязак кожнага пажарніка. А ў Малінніках ахвотных ёсць.

— Калі 30 мая, у нядзелю, у суседняй вёсцы, у Вульцы-Выганоўскай, успыхнуў пажар, малінніцкая каманда тушыць агонь не паехала. Чаму? — пытаецца адзін з жыхароў Маліннік і зараз жа адказвае: — Бо шафёра не было тады на месцы. Мы хочам, каб у шафёра быў зменшчык, а калі Пётр Іванюк гэтага не хоча, павінен адысці з гэтай пасады. Такая пастанова была вынесена на пасяджэнні Гміннага праўлення Добраахвотных пажарных каманд.

— Прычынай усёй неразбярыхі з'яўляецца гмінная радная, а заадно солтыс вёскі і жонка шафёра Ніна Іванюк. Яна заявіла, што пастанова Гміннага праўлення несапраўдная. У нас, у Малінніках, уся ўлада апынулася ў адным доме, а так не павінна быць, — наракаюць жыхары Маліннік. — Калі вясковая пажарная каманда атрымала машыну, дык чатыры месяцы ніхто ёю не карыстаўся, пакуль Пётр Іванюк не закончыў вадзіцельскіх курсаў. А шафёры ў вёсцы былі. Вядома, з такім падыходам да справы пагаджацца нам нельга.

**Міхал Мінцэвіч**

# Увесь час трэба змагацца

Аркадзь Плева нядаўна закончыў вучобу ў Гайнаўскім белліцэі і думае паступаць у вышэйшую навучальную ўстанову.

— Хаця думаў я паступіць на юрыдычны факультэт і стаць пракурорам, каб ліквідаваць гэтую несправядлівасць, якую адчуваю вакол сябе, то радня пераканала мяне, што цяжка будзе перайсці аплікацыю і сачыць штодзень за ўсімі юрыдычнымі зменамі, — кажа Аркадзь, які не бачыць амаль ад нараджэння. — Калі вырашыў я, што пайду вучыцца на педагагічны факультэт, то ва універсітэтах у Беластоку і Любліне ніхто не мог пацвердзіць, што падрыхтуюць матэрыялы для пісьмовых уступных экзаменаў брайлеўскім пісьмом, а толькі папярэджвалі, што ва універсітэцкіх бібліятэках матэрыялы для невідучых адсутнічаюць. У Міністэрстве адукацыі паведамілі, што вышэйшыя навучальныя ўстановы ў Польшчы самастойныя і самі вырашаюць пра ўсе свае справы і гэтым самым дарога туды мне закрылася. Добра, што хаця ў Вышэйшай школе спецыяльнай педагогікі ў Варшаве саказалі, што падрыхтуюць экзаменацыйныя пытанні брайлеўскім пісьмом, таму і вырашыў здаваць туды экзамены.

Першай школай, у якую паступіў Арэк была Падставовая школа для невідучых у Лясках каля Варшавы.

— Вучоба ў Лясках пачынаецца ад прадшколля, але я тады многа хварэў і можна сказаць, што пачаў вучыцца там ад нулявога класа. Паколькі зрок страціў я праўдападобна ў інкубатары, з акружаючым светам знаёміўся дома, у Гайнаўцы. Засвойваючы неабходныя інфармацыі і гуляючы з раднёю, навучыўся я гаварыць і па-польску, і пасвойму, — успамінае мой суразмоўца. — Першыя дні ў Лясках гэта быў плач і непраспаныя ночы, цяжкія былі першыя тыдні, месяцы і гады. Хаця спачатку мама прыязджала абавязкова раз на два тыдні, вельмі хацелася вяртацца дамоў, але калі стаў я старэйшым, звыкся з вучобай далёка ад дому. Узровень навучання быў высокі, а ў класах было па 8-11 асоб. Добрыя ўспаміны засталіся ад настаўнікаў.

Горш за ўсё ўспамінаю жыццё ў інтэрнаце, дзе за правіннасці вучні пазбаўлены былі магчымасці выезду і сустрэч з бацькамі. Бывала і так, што некаторых пасялялі ў гімнастычнай зале і забаранялі сустракацца з сябрамі. Аднак засталося больш добрых успамінаў, а асабліва ад сяброўства.

На падставе адпаведнай пастановы Міністэрства адукацыі Аркадзь Плева прыняты быў у Гайнаўскі белліцэй без экзаменаў і хадзіў на заняткі разам з усімі вучнямі са свайго класа, сустракаючыся дадаткова толькі з настаўнікамі матэматыкі, фізікі і хіміі. У старэйшых класах вучоба ўскладнілася таму, што цяжка было раздабыць падручнікі з літарамі Брайля.

— Скончыўшы вучобу ў падставовай школе, вырашыў я, што не буду далей вучыцца з невідучымі, а на выбар белліцэя мела ўплыў і радня, якая вучылася ў гэтай школе, — расказвае Аркадзь пра апошнія свае гады. — Праблемаў з вучобай у ліцэі не было, асабліва любіў я гуманістычныя прадметы, таму і экзамены на атэстат сталасці здаў на пяцёркі, а па англійскай мове атрымаў нават шасцёрку. Па беларускай мове не было падручнікаў, але памятаў тое, што было ў час урокаў. Пра літаратуру расказвалі сябры, а граматыка беларускай мовы даволі простая. Горш было пісаць, бо не ўсе літары гражданкі памятаў з падставовай школы і пісаў напалову лацінкай, так як у XIX стагоддзі, але найважнейшы момант быў у працах тады, калі адчытваў іх настаўнікам, асабліва тады, калі тычылася гэта матуральных прац. Па беларускай мове матуральны экзамен атрымаўся добра. Пісаў я пра свае родныя мясціны, а ў час вучобы ў сярэдняй школе прыйшлося пабываць і на Крыначцы, і на Грабарцы, куды ішоў у паломніцтве, і пасля першага класа без згоды бацькоў сам паехаў на Басовішча. Аднак найлепшыя ўспаміны з сярэдняй школы засталіся ад пабыўкі ў Лондане, куды ездзіў на некалькі тыдняў вучыцца англійскай мове. Асабліва задаволены, што сустрэўся там са зразуменнем і аўтэнтычнай талерантнасцю.



— Хаця на заняткі ездзіў там самастойна на метро, то калі трэба было, заўсёды памагалі мне сябры, — успамінае Арэк. — У ліцэі таксама сустракаўся з дапамогай, але не ўсе маглі зразумець, што я такі самы, як іншыя, і не ездзіў усюды куды адпраўляліся сябры. Часам адчуваў, што застаюся крыху збоку, быў і песімізм. Калі цяпер я пачаў рыхтавацца да вучобы ў вышэйшай установе, бачу, што ўвесь час трэба будзе змагацца за свае правы. У Лондане я заўважыў, што там менш перашкод для асоб калекіх, невідучых, але як туды выехаць?

**Аляксей Мароз**
*Фота аўтара*

# Аповед пра Сяргея Хмару



Сяргей Хмара (сапраўднае прозвішча Сіняк) нарадзіўся 25 траўня 1905 года ў вёсцы Казлоўшчына Слонімскага павета (цяпер Дзятлаўскі раён). У васемнаццаць гадоў стаў сувязным антыпольскай партызанкі БНР, а ў 19 гадоў ужо кіраваў маладзёжным партызанскім аддзелам БНР (атрад „Іскры"). З'яўляўся сябрам Таварыства беларускай школы ў Радашковічах і быў прадстаўніком ТБШ у Вільні, дзе пазнаёміўся з Сымонам Рак-Міхайлоўскім. У гэты час раскрываюцца асноўныя арганізатарскія і творчыя здольнасці Сяргея Хмары. Напрыклад, толькі ў 1926 годзе ён арганізаваў 32 гурткі Беларускай сялянска-работніцкай грамады, якія налічвалі каля трох тысяч сяброў.

У 1930 годзе Сяргея Хмару выбіраюць сакратаром пасольскага клуба „Змаганне" ў Пінску, дзе ён спрабаваў закласці беларускую гімназію і выдаваць часопіс. З 1931 года працаваў інструктарам Галоўнай управы ТБШ у Вільні, але ў 1932 годзе яго арыштоўвае польская дэфензіва і разам з Браніславам Тарашкевічам саджае ў турму. Браніслаў Тарашкевіч атрымаў восем гадоў, а Сяргей Хмара — крыху менш.

Пасля турмы наш зямляк вярнуўся на Слонімшчыну, дзе разам са сваімі равеснікамі і старэйшым паэтам Гальяшом Леўчыкам меркаваў выдаваць літаратурны часопіс „Маладая ўскалось". Але паляткі не дазволілі. І тады С. Хмара, А. Лябецкая, С. Бякета, А. Крыга, П. Крэнь і іншыя хлопцы і дзяўчаты арганізавалі ў Дзятлаве літаратурную сустань „Маладая ўскалось".

За гэты час Сяргей Хмара шмат друкаваўся ў віленскіх газетах і часопісах. А ў 1939 годзе ў Вільні выходзіць яго першая паэтычная кніга „Жураўліным шляхам":

Калыхала зыбку маці,
калыхала.
— Ой, бяды не будзеш знаці, —
мне пяяла.
— Будзеш сонцу усміхацца
залатому,
сэрца цешыць, любавацца
грошай звонам.
Будзеш ты вялікім панам
над панамі,
у палацы жыць цагляным
са слугамі.
Ой, пяяла, ой, гадала,
не мылілась —
у палацы жыву стала
з слугаў сілай.
Мне і дзверы адчыняюць,
есці носяць;
абмываюць, адзяваюць,
ў спацыр просяць.
Ды аднога не ўгадала
мая маці:
няма сонца залатога
усміхацісь.
І не цешаць сэрца звонам
кучы грошай, —
звоняць іншым ў дзень і ў ночы —
сон палошаць.

Пасля прыходу Чырвонай Арміі ў Заходнюю Беларусь Сяргей Хмара жыў у Слоніме, але радасці было мала. Неўзабаве яго арыштавалі органы НКУС і пасадзілі ў баранавіцкую турму. Вызваліўся з прыходам немцаў і вярнуўся зноў у акупіраваны Слонім. Тут прыдбаў невялікую кніжную краму, прадаваў беларускія кнігі, прымаў удзел у выданні газеты „Слонімскі кур'ер"...

У 1945 годзе Сяргей Хмара ўжо ў Берліне, працуе дырэктарам Беларускага інфармацыйнага бюро, пасля рэдактарам „Голасу беларусаў". З Берліна шлях яго ляжыць у Канаду ў Таронта. Доўгі час выдаваў там газету „ Беларускі голас" і часопіс „Баявая ўскалось". Вёў вялікую работу па прапагандзе беларускай мовы і культуры, выступаў у друку з вершамі і ўспамінамі. У 1950 годзе ў Таронта заснаваў першую беларускую царкву Святой Еўфрасінні, быў першым старшынёй Канадскага этнічнага клуба журналістаў і пісьменнікаў.

Да ўсяго сказанага вышэй пра Сяргея Хмару-Сіняка трэба дадаць, што ён шмат гадоў употайкі перапісваўся з Піліпам Пестраком, які дасылаў яму свае кнігі. А ў рамане „Сустрэнемся на барыкадах" Піліп Пестрак нават змясціў невялікі кавалачак яго песні „Годзі, мы доўга цярпелі...".

Шчыра сябраваў Сяргей Хмара і з Уладзімірам Дубоўкам, які прысвяціў яму сваю казку „Як сінячок да сонца лётаў" (1961 г.). У добрых адносінах ён быў з Ларысай Геніюш, Валянцінам Таўлаем і некаторымі іншымі беларускімі літаратарамі.

Сяргей Хмара-Сіняк пражыў доўгае жыццё і памёр у 1992 годзе. Пахаваны на беларускіх могілках у Таронта.

**Сяргей Чыгрын**

# У цяні вялікай вайны

[1 ☞ працяг]

Гэта не быў толькі канфлікт ідэі, але за гэтым ішла ўнутраная вайна, смерць і пакуты соцень тысяч беларусаў. Амаль дзевяноста працэнтаў ворагаў забітых савецкімі партызанамі ў Беларусі гэта мясцовыя беларусы, якія былі настаўнікамі, культурнымі дзеячамі, гміннымі чыноўнікамі, солтысамі. Сярод ахвяр былі таксама іх сем'і, якія лічыліся такімі ж ворагамі савецкай улады, як пацыфікуючыя вёскі эсэсаўцы. З другога боку, трэба бачыць трагедыю беларускіх нацыяналістаў, якія вымушаны былі выступаць у ролі саюзнікаў катаў свайго народа.

3 ліпеня 1944 г. вялікая частка беларусаў прайграла сваю вайну, таму сёння гэтая дата — свята савецкіх пераможцаў. Ніколі не стане яно святам тых, якія чакалі і чакаюць незалежнасці. 27 ліпеня магло б стаць кампрамісным святам для ўсіх. Прыгадайма — у гэты дзень 1990 г. беларускія нацыяналісты і камуністы прагаласавалі за тое, каб Беларусь стала суверэннай краінай, адкрываючы гэтым дарогу да поўнай незалежнасці.

**Яўген Міранові**ч

# Літаратурная старонка (474)

Міра Лукша

* * *

людзі лістападаў
зусім не сумныя
сумотай асенняй

гэта не сум
у іхных сумках
іх да зямлі
прыгінае
сумесны з імі
на месцах поўных целаў
і ветру
вагі бязважкія бязмены
хістаюцца
а нарэзы балючыя
колькі хто мае аддаць
застаюцца
гаспадарам гаспадыням
здавалася ўсяго свайго
на памяць

Юры Баена

## Яблыня

Штовечар ля майго акна
вырастае маладая яблыня.

У дом уваходзіць у квецці,
у паводцы веснавога лісця.

На галінках яблыні
зоры срэбрацца.
Або мільгацяць
з касмічных даляў.

Засынаю.

Нехта раніцай
збірае сны,
раскінутыя мары.

У памяці
мне застаецца цень
маладой яблыні.

Ірына Радзіванюк

* * *

Як доўга буду адчуваць слёзы
пад заціснутымі павекамі
Як доўга буду перажываць
дзень твае крыўды
Як доўга буду адгадваць
як трапіць зноў у твае думкі

Прабач
Прадбач мае словы ў імгле

Алена Анішэўская

## Сумны сад

Садок мой расцвіў
і скінуў белы цвет,
счарнеў...
відаць ад болю
што памірае дзесь
далёкі брат
Балканскі Новы Сад!
Ці ажыве калі?
Ці зацвіце жыццём
І ўстане ў поўны рост
з паднятай галавою?
— Ці ведаеш? У агоніі
Славянскі Белы Град
(мне Яблыня шаптала)
А важныя, Вялікія маўчаць!
— (Так хоча іх вялікі брат
з-за акіяна)
............
Калі сумленне ў людзях спіць
няхай хоць Яблыня
у нямым пратэсце крычыць —
— мо гэты крык
Нябесная пачуе
справядлівасць.
— людская ўтапілася
ў крыві дваццатага
стагоддзя.

Барыс Руско

## Згуба

Згубіў я ўласны адрас
і блукаю
паміж дзвярыма
наналову чужымі.
Парог. След туфляў.
І некалькі пустых
слоў.
Патрэбны мне мой адрас,
каб на акне
павесіць завяшчанне
з забытым зместам.

Магда Шымчук

## Размова

Ніхто не ведае
што нашу ў сабе
Кожны бачыць толькі
што раблю
Размаўляю з Богам так
як умею
Размаўляю з дрэвам
з макам
З Табой не здалею...

Мікола Сцепаненка

# Праўдзівая гісторыя аб пахаванні бабы Мані

Гэта здарылася вясною ў вёсцы Копцеўка, што на Магілёўшчыне.

Зранку трыццацівасьмігадовая дачка ўбачыла нерухомае цела маці. Схапіла халодную далонь і пачала кленчыць, але безвынікова.

Не губляючы часу, дачка пабегла да доктара. Ад убогай хаткі, што стаяла на водшыбе ля ракі да бальніцы было недалёка. Не прайшло і 20 хвілінаў, як каля ложка старой стаяў мясцовы фельчар. Нетаропка агледзеўшы цела, ён паспачуваў дачцы і маленькай байстручцы, якая ціхенька назірала за тым, што адбывалася ў хаце, і выпісаў пасведчанне аб смерці. З афіцыйнай паперай дачка накіравалася ў сельсавет. Старшыня з разуменнем паставіўся да яе гора — выпісаў грашовую дапамогу ў памеры 1 млн. 200 тысяч беларускіх рублёў і даў загад на саўгасную пілараму.

У той жа дзень са свежых, набрынялых вільгаццю дошак, рабочыя наспех збілі вялізную не па памерах дамавіну, ведаючы наперад, што слова падзякі за сваю працу не атрымаюць, не кажучы ўжо пра пляшку.

Баба Маня з дачкой была не з мясцовых — прыехалі аднекуль з Расіі. Гаспадаркі сваёй ніколі не мелі, жылі адасоблена ў маленькай, абабітай руберойдам хаце. Раней да іх па вечарах наведваліся маладыя хлопцы, цягнучы за сабой бульбу, сала, малако. У выніку з'явілася на свет унучка, і гэта таксама выклікала абурэнне вяскоўцаў.

На наступны дзень, калі дачка пачала рыхтаваць маці ў апошні шлях, старая нечакана расплюшчыла вочы і раскрыла рот.

Пяць дзён баба Маня праляжала на бальнічным ложку, а фельчар на выдзеленыя дзеля жалобы грошы калоў уколы і ставіў кропельніцы. На шосты дзень, калі скончыліся грошы, ён агледзеў пацыентку і прыйшоў да высновы, што на гэты раз баба Маня па-сапраўднаму адышла ў нябыт.

У бальнічным двары труну ўсклалі на калёсы, і перад тым, як адвезці нябожчыцу дамоў, дачка правяла каня пад вокнамі сельсавета.

Дапамагчы хаваць старую з аднавяскоўцаў ніхто не захацеў. Дачцэ не заставалася нічога іншага, як прыйсці да барака, дзе жылі асуджаныя калоніі-пасялення УЖ 15/18, і папрасіць дапамагчы. Звыклы да хабару кантралёр калоніі прапаршчык Александровіч выдзяліў чатырох хлопцаў з умовай, што за працу жанчына разлічыцца наяўнымі. Для асуджаных, натхнёных выпадковым заробкам, а галоўнае — адсутнасцю побач мента, праца падалася зусім простай. Праз дзве гадзіны ва ўказаным месцы, на самым ускрайку могілак была вырыта і акуратна зачышчана яма.

Не дачакаўшыся палудня, што па мясцовых звычаях забаронена, труну з нябожчыцай ускладі на калёсы і маленькая працэсія рушыла да могілак. У труне баба Маня выглядала амаль як жывая: тонкія чорныя бровы, румянец на шчоках... З-пад капы высоўваліся худзенькія ножкі ў белых шкарпэтках — баба Маня была неабутая.

Доўга развітацца з нябожчыцай ні ў кога не было жадання, і ўжо праз дзесяць хвілін двухметровы зэк Шура па мянушцы Малыш паказваў на грудок, аздоблены адзіным маленькім вяночкам.

Атрымаўшы на брата па 50 тыс. рублёў плюс долю прапаршчыка Александровіча, хлопцы вярнуліся ў барак.

На гэтым гісторыя з бабай Маняй магла б і скончыцца, калі б яе не пабачылі зноў. Апоўначы, недалёка ад могілак вартаўнік Антон нечакана для сябе напаткаў жанчыну. У белых шкарпэтках яна павольна крочыла ўздоўж ракі.

П'яніцу Антону ніхто б не паверыў, калі б праз тыдзень яго аповед не пацвердзіў браканьер Саха. Сярод ночы, закідаючы сеткі, ён пабачыў жанчыну ў белых шкарпэтках, якая прайшла праз грэблю і паціху накіравалася ў бок могілак. Відавочнае супадзенне прывяло да таго, што па вёсцы папаўзлі розныя чуткі. Людзі сталага ўзросту гаварылі, што баба Маня была вядзьмаркай, і цяпер чакайце ліха. Моладзь схілялася да думкі, што зэкі за грошы пахавалі пустую труну, а старая жывая.

Больш за ўсіх прывід бабы Мані непакоіў вартаўніка Антона, якому час ад часу даводзілася хадзіць у крадла і сустракаць на сваім шляху загадкавую постаць. Каб пераканацца на ўласныя вочы, ці сапраўды старую пахавалі, Антон звярнуўся ў барак да пасяленцаў і прапанаваў за адпаведны кошт разрыць магілу. З тых хлопцаў, якія хавалі бабу Маню, застаўся адзіны Васіль па мянушцы Вініпух. Двое адбылі тэрмін і з'ехалі, трэці „раскруціўся" і адбываў пакаранне ў калоніі строгага рэжыму. Васіль выслухаў „базар" Антона і катэгарычна адмовіўся праводзіць эксгумацыю, паслаўшы яго...

І да гэтага часу прывід бабы Мані блукае па Копцеўскім наваколлі.

Міра Лукша

# Хата

Стаяла хата Сонькына пустая. Як памерлая. Адно кветкі паверыць не хацелі, што гаспадыня пакінула дабытак, лезлі ў вокны з гародчыка — чырвоныя, жоўтыя, ліловыя, сінія, белыя, распіхалі сярод лебяды і малачаю. Вядома, — быліны, украніліся тут ад пару дзесяткаў гадоў, а касачы цвёрдым валам каранёў апляні падмурак ад самога пачатку, як ставілі хату. А Сонька з'ехала да ўнучкі ў горад. Добра, што мае пры кім свой век дажываць — то ж ёй чуць не дзевяноста! Праўнукі, праўда, ужо вялікія, адзін нават ужо ў ліцэі, не трэба памагаць іх гадаваць, але свой куток знайшоўся. Бо ў дачок Сонькыных — адны беды: хваробы, мужыкі нядобрыя, старая ім мяшае; пабыла ў Зіны, зяць вось на кухню не пускае, калі сам есці сядзе. Сварацца зяці, а і Сонька на тое язык у роце мае, каб сваё сказаць. Адбрэшацца, як трэба. Увогуле ў Вёсцы кабеты таленавітыя на слова.

Ну, калі нават і былі якія сваркі між кабетамі ў Вёсцы, то ўсё забыта, даравана. Развіталіся былі ўдавіцы з сяброўкай, адправілі ў Беласток, паціху зайздросцячы. Бо тут і крамы, вось, няма, і да лекара ўзімку пакуль у гміну даедзеш! Стары ж сам чалавек, ледзь ногі валачэш. Ганула во кончылася, не дачакаўшы „скорай" дапамогі: дыспетчарка ў Беластоку палічыла, што не варта машыну гнаць такую дарогу да старэчы. Калі на жыццё — то выжыве. А хату пакінула Сонька пад добры нагляд жывучым суседкам. Ды што там і сцягнеш, такое багацце!

Але вось паявілася ў хаце гаспадыня! Маладая, з дзіцяткам — наняла Сонькыну хату сям'я з далёкае пушчанскае вёскі; мужу бліжай на працу ў мястэчка. Прыехала ў гэтае лета Сонька пабачыць, што там у сяле робіцца, магілкі наведаць, а суседка найбліжэйшая бокам яе абыходзіць, не азываецца.

— Ты што, Любо, на мяне бочышся? — падсела да яе на лавачку госця.

— Ты нашто хату сваю наняла?! — злосна глянула на Соньку Люба Паўліха.

— А што мела пуставаць... І грош невялікі будзе, пійсят злотаў у месяц. І зімою апаляць, не будзе стыла. А то грыб вылез у кухні на сцяне... Добра, што яны якраз маю хатку ўпадабалі, ды яшчэ з дзіцяткам... Як добра! Не мела яна, мая хатка, ужо надзеі няньчыць малое.... А ты чаму злосная на мяне? Здаецца, суседзі з іх добрыя, дый з маладымі весялей...

— А не лепш было маю Ірку зноў на лета туды ўпусціць?

Змаўчала Сонька. Крыўдна, бачыш, суседцы: дарам дагэтуль пускалі, нічога не казалі на паламаныя кусты парэчак, паабіваныя яблыні, засыпаную смеццем студню, загаджаны чужымі гусьмі падворак... А тут на яшчэ раптам: пяцьдзесят злотых кожны месяц, і за святло заплаціць... Куды ёй, Соньцы, гэты грош патрэбен? То ж нават ужо помнік сабе пры жыцці паставіла на местачковых моглiцах, з партрэтам. Колькі да шчасця ёй яшчэ трэба?!

Паедуць Любіны мястовыя ўнукі пад восень дадому. Апусцее ўся Вёска, змоўкне. А ў Сонькынай старой хаце расце наступны малы.

# Зорка
## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ



*Дашкольнікі і іхнія бацькі ў Смольніках (Сакольшчына).* Фота Ганны КАНДРАЦЮК

## Канец школьнага года ў Орлі

Канец 1998/99 навучальнага года ў Орлі паспяховы. Усе вучні перайшлі ў наступныя класы. Пачатковую адукацыю, апрача васьмікласнікаў, закончылі шасцікласнікі — будучыя гімназісты. Варта адзначыць, што многія з іх і далей будуць вывучаць беларускую мову.

Паглядзім, калі ласка, з якім вынікам закончылі вучобу арлянскія васьмікласнікі. На 28 навучэнцаў 8 атрымалі пасведчанне з бела-чырвонай палоскай. Яны атрымалі таксама кніжныя ўзнагароды ад бацькаўскога камітэта.

**Марыя Бжоза** — сярэдняя ацэнка **5,15**, **Моніка Сахарэвіч — 5,1**, **Давід Грыгарук — 5,1**, **Андрэй Каляда — 4,9**, **Ева Казак — 4,9**, **Оля Рэнгайла — 4,9**, **Сільвія Шыманская — 4,9**, **Крыся Сакоўская — 4,8**.

Сярэдняя ацэнка ўсяго восьмага класа — 3,8. Кніжныя ўзнагароды атрымалі таксама **Дарак Мартынюк** (за спорт), **Ева Казак** і **Сільвія Шыманская** (за рэдагаванне школьнай газеты „Сцек"); у „Зорцы" друкавалі мы інтэрв'ю Сільвіі Шыманскай з ніжэйпадпісаным; артыкул атрымаў назначэнне да конкурсу „Артыкулы квартала".

Кніжныя ўзнагароды атрымалі **Андрэй Каляда** і **Лукаш Казімерук**, якія прачыталі найбольш кніжак са школьнай бібліятэкі.

Толькі пяць выпускнікоў пойдзе ў прафесійныя школы; апошнія хочуць вучыцца ў ліцэях і тэхнікумах. Дзевяць асоб выбіраецца ў белліцэй.

Упершыню пачатковую школу **закончылі шасцікласнікі**. На 20 выпускнікоў 5 атрымала пасведчанні з бела-чырвонай палоскай. Вось прозвішчы выдатнікаў: **Магда Лемеш, Віялета Добаш, Моніка Мартыновіч, Малгажата Конюх, Пшэмыслаў Бала.**

Ад верасня шасцікласнікі пачнуць навуку ў гімназіі ў сваёй школе. Тут у двух першых класах будзе 43 асобы з Арлянскай і Дубіцкай гмінаў. З Дубічаў-Царкоўных прыйдзе 108 вучняў, з Маліннік — 8 і 5 са Старога Корніна. Дырэктарам гімназіі і заадно пачатковай школы далей будзе **Яўгенія Васілюк.**

У час канікулаў у школе будзе праводзіцца рамонт. 10 дзяцей паедзе ў Рыдзэва. А з верасня, у новым 1999/2000 навучальным годзе ў ПШ у Орлі будзе вучыцца 141 вучань. 18 дзетак прыйдзе ў нулявы аддзел.

Навучанне беларускай мовы пачнецца ўжо з першага класа. Большасць дзяцей будзе хадзіць на ўрокі роднай мовы.

**Міхал Мінцэвіч**

## Лета

У сукенцы каляровай,
У хусцінцы васільковай
Ходзіць лета па палях,
Па расквечаных лугах.
Звоніць песняй жаўруковай,
Кожны дзень званчэйшай, новай,
Дбайна сонечнае лета
Спеліць ягады для дзетак.
Любіць з імі забаўляцца,
Загараць, спяваць, купацца.
Дораць дзеці лету ўсмешкі,
Гульні, песні і пацешкі.
І расчуленае лета
Дорыць ім букеты кветак.

**Ніна Галіноўская**

## Польска-беларуская крыжаванка № 27

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы (з наклееным кантрольным талонам) дашліце на працягу трох тыдняў у „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Zamówienie | | Ballada | | 📖 | Suszarka do włosów | |
| Zakalec | ▼ | Kozak | ▼ | Lok | ▼ | Zabawka |
| ► | | ▼ | | ▼ | | ▼ |
| Kolumna ► | | | | | | |
| ► | | | | | 📖 | |
| Furman / Zadanie | ► | | | | | |
| | Róg ► | | | | | 📖 |

**Адказ на крыжаванку н-р 23:** Гразь, рыза, шлях, гусак, тора, шкробат, танк. Груша, рыск, базар, закон, штат, галота, яр, ліха.

Узнагароды, **аўтаручкі (cienkopisy)**, выйгралі: **Пятрусь Янкоўскі** і **Ева Конюх** з Бельска-Падляшскага, **Уршуля Ляўчук** і **Марцін Лукошык** з Гарадка. **Віншуем!**

## Лянівая прыгажуня і яе цётухны(2)

***(ірландская казка)***
***(працяг; пачатак у 26 нумары)***

На гэты раз дзяўчыну мучыў страх яшчэ болей: яна не ўмела нават падрыхтаваць аснову тканіны і не ведала, як карыстацца чаўнаком. І яна сядзела зажураная, як раптам перад ёю вырасла маленькая і абсалютна квадратная бабуля: такія шырокія ў яе былі плечы і бёдры. Госця сказала, што яе завуць Квадратнай Бабуляй, і заключыла з Энці тую ж дамову, што і Вяліканогая Бабуля.

Ну і ўцешылася каралева, калі раніцай знайшла гатовае палатно, такое белае і тонкае, быццам самая лепшая папера, якую толькі даводзілася бачыць!

— Ах, як прыемна! — сказала каралева. — А цяпер адпачывай з дамамі і кавалерамі. І калі заўтра ты з гэтага палатна нашыеш цудоўных сарочак, адну з іх ты зможаш падарыць майму сыну. І хоць тут жа выходзь за яго замуж!

Ну як было не паспачуваць беднай Энці: вось-вось і прынц будзе яе навекі, а можа здарыцца, яна страціць яго назаўсёды! Але Энці набралася цярпення і чакала з нажніцамі, іголкай і ніткай у руках да самага паўдня. Прайшла яшчэ хвіліна, і тут нарэшце з'явілася трэцяя бабуля. У бабулі быў велізарны чырвоны нос, і яна тут жа паведаміла Энці, што яе так і завуць — Чырвананосая Бабуля. Яна была зусім не горшая за іншых бабулек, і, калі на другі дзень раненька каралева прыйшла да Энці, тузін цудоўных сарочак ужо ляжаў на стале.

Што ж, цяпер справа тычылася толькі вяселля. І паверце ўжо мне, вяселле зрабілі на славу! Бедная матуля Энці таксама была сярод гасцей. За абедам старая каралева не

# Падарожжа на Сувальшчыну



*У гасцях у Анелі Максімовіч у вёсцы Ашкіні каля Пуньска. Першая злева Рута Карнілюк, ззаду Анеля Максімовіч.*

Па запрашэнні літоўцаў дзеткі і бацькі з беларускіх аддзелаў дзіцячага садка ў Беластоку гасцявалі ў Пуньску. Там яны завіталі ў літоўска-польскае прадшколле, дзе выступілі з пастаноўкай „Юр'еўскі карагод". Гаспадары таксама падрыхтавалі мастацкую частку. З адкрытымі роцікамі слухалі нашы малечы літоўскіх песень і гульняў. Пасля выступленняў і пачастунку дзеці супольна гулялі на пляцоўцы, а дарослыя знаёміліся з працай садка.

У Пуньску большасць жыхароў гаворыць па-літоўску. У сям'і зразу навучаюць дзяцей роднай мове. Таму большасць дзяцей, якія прыходзяць у прадшколле, не ведае польскай мовы. Пазней у пачатковай і сярэдняй школе ўсе прадметы вядуцца па-літоўску. Польская мова, як у нас беларуская, пачынаецца з другога класа. Цікава, што гэтая сітуацыя дае магчымасць поўнага вывучэння польскай мовы. Многія выпускнікі літоўскага ліцэя паступаюць на паланістыку.

— Разам з дзеткамі польскіх аддзелаў ладзім экскурсіі і мерапрыемствы, — кажа Анна Вяжбіла, дырэктар дзіцячага садка ў Пуньску.

У Пуньску наведваем ямчэ скансэн, драўляную сялібу крытую саломай. Потым едзем у госці да прабабкі дашкольніка Ігара Карнілюка Анелі Максімовіч у Ашкіні. На зялёным панадворку, пад цяністымі дрэвамі адпачываем ад спякотнага надвор'я. З намі таксама бабка Ігара, Рута Карнілюк, якая расказвае пра сваю бацькаўшчыну.

Паўночна-ўсходняя Сувальшчына ўражвае сваёй прыгажосцю. Тут многа азёр, лясоў ды ўзгоркаў. Таму ў паваротнай дарозе наведваем Смольнікі і доўга захапляемся казачнымі краявідамі.

**Ганна Кандрацюк**
*Фота аўтара*



*Адпачынак на зялёным панадворку ў Ашкінях.*

# Успамінаюцца мне дні

***(успаміны Хведара Ільяшэвіча пра скаўтаў Віленскай беларускай гімназіі)***

**Частка 2**

Мы збіраліся ў грамаду асобна і з важнымі мінамі пачыналі спяваць. Але ў нас неяк выходзіла інакш, не так, як у іх! І мы спрабавалі выдаць свой часопіс. Выдаць у друкарні мы не маглі, дык пачалі сапірхрафе. Памятаю, як мы друкавалі яго да познай ночы. І калі я позна прыйшоў да хаты, то дастаў добрую навучку ад бацькоў. Але мне ўсё было няважна. Галоўнае, часопіс наш быў гатовы. Вушы гарэлі, і я ня мог доўга заснуць. А назаўтра, як пярун з яснага неба, усіх нас аглушыла забарона і канфіската нашага часопіса. Паказалася, што перадавіца ў ім была за моцна напісана, і інспектар выклікаўшы ўсіх маладых выдаўцоў, прачытаў нам натацыю. — Палітыкай пачалі займацца, малакасосы! Мы выйшлі з канцылярыі як пабітыя. Мы чуліся пакрыўджаныя. Нашыя спробы не ўдаваліся, нас ніхто, здавалася, не разумеў. А мы рваліся да дзіцячаму да працы. Але я ведаў больш чым іншыя мае аднакласнікі. Вось да майго старэйшага брата часта прыходзілі ягоныя сябры, і яны зачыніўшыся ў пакоі, доўга аб нечым гутарылі. Я ўкрадкам падслухоўваў праз дзірачку ад замка іх гутарку. Шмат я ня мог зразумець, але давэдаўшыся, што гутарка важная і гаворыць аб нейкіх тайных справах. Часам брат з сябрамі кудысьці ішоў. Я бег за імі, а мяне гналі ісці дахаты. Я спачатку ня слухаўся і спіраўся, але пасля, з глыбокай крыўдай у сэрцы, ішоў дамоў з вачамі поўнымі слёз.

***(працяг будзе)***

*(стыль і арфаграфія аўтара захаваны)*

# Справядлівая любоў

Любоў — гэта пачуццё, якое ўзбагачае чалавека, складаецца яно на поўнае людское жыццё і шчасце, дапамагае перамагаць розныя праблемы, падмацоўвае духова і цялесна.

Сапраўдную глыбокую любоў цяжка сабе ўявіць, так як цяжка абняць сваім уяўленнем цэлы Космас. Любоў быццам калодзеж, з якога чэрпаеш, а вады з яго не меншае і нельга яе вычарпаць.

Любоў не мусіць быць узаемнай, гэта дар якога ніколі не забываеш. І хто хаця раз дасведчыў шчасця разам з любоўю, будзе аб ім заўсёды марыць і шукаць яго вакол сябе. Любоў як насенне, з якога вырастае прыгожае дрэва. Частуешся пладамі гэтага дрэва, а яно далей расце і родзіць яшчэ больш. Можна сказаць, што аб'ём любові, якую чалавек носіць у сабе, расце наперакор логіцы. Чым больш даю, тым больш маю. Любоў гэта сіла творчая, падмацоўвае ў нас радасць жыцця, дае сілу і павялічвае талерантнасць на чужыя недахопы. Ёсць дарам, які неабходна трэба сцерагчы. Думаю, што кожны ўмее любіць і толькі ад яго залежыць, ці хоча падзяліцца гэтым пачуццём з іншымі.

**Аліна Сіроцкая,**
**кл. VIII ПШ у Чыжах**

магла гаварыць ні аб чым, акрамя сарочак. Яна марыла пра той шчаслівы час, калі пасля мядовага месяца яны з нявесткай толькі і будуць што прасці, ткаць ды шыць сарочкі і кашулі.

Жаніху былі не даспадобы такія размовы, а нявесце тым болей. Ён хацеў ужо ўставіць сваё слова, як да стала падышоў лёкай і сказаў, звяртаючыся да нявесты:

— Цётухна вашай міласці, Вяліканогая Бабуля, просіць даведацца, ці можа яна зайсці.

Нявеста зачырванелася і гатова была скрозь зямлю праваліцца, але, на шчасце, умяшаўся прынц:

— Скажыце місіс Вялікаваногай, што ўсім сваякам маёй нявесты і я, і яна заўсёды сардэчна рады.

Бабуля з вялікімі нагамі зайшла і села побач з прынцам. Каралеве гэта не вельмі спадабалася, і пасля некалькіх слоў яна даволі злосна спытала:

— Ах, васпані, чаго гэта ў вас такія вялікія ногі?

— Э-э, матухна! Ці верыце, ваша вялікасць, амаль усё сваё жыццё я прастаяла каля прасніц. Вось ад гэтага!

— Клянуся гонарам, мая любімая, — сказаў тады прынц, — ніводнай гадзіны больш я не дазволю табе стаяць каля прасніцы!

Той жа самы лёкай зноў абвясціў:

— Цётухна вашай міласці, Квадратная Бабуля, хоча зайсці, калі вы і іншыя высакародныя паны не пярэчаць.

Энці была вельмі незадаволена, але прынц запрасіў госцю зайсці. Яна села і выпіла за здароўе кожнага госця.

— Скажыце, васпані, — звярнулася да яе старая каралева, — чаму гэта вы такая квадратная?

— Таму, ваша вялікасць, што ўсё сваё жыццё я прасядзела каля кроснаў.

— Клянуся ўладай, — сказаў прынц, — мая жонка не будзе сядзець каля кроснаў ніводнай гадзіны!

Зноў зайшоў лёкай.

— Цётухна вашай міласці, Чырвананосая Бабуля, просіць дазволу прысутнічаць на банкеце.

Нявеста яшчэ гусцей пачырванела, а жаніх ветліва сказаў:

— Перадайце місіс Чырвананосай Бабулі, што яна робіць нам гонар!

Бабуля зайшла, яе ўсяляк ушанавалі і пасадзілі за стол. А ўсе госці, якія былі на вяселлі, паднеслі да носа хто келіхі, хто шклянкі, каб схаваць свае ўсмешкі.

— Васпані, — звярнулася да яе матухна-каралева, — ці не будзеце мець ласку расказаць нам, чаго гэта ваш нос такі вялікі і чырвоны?

— Бачыце, ваша вялікасць, я ўсё сваё жыццё схіляла галаву над шытвом, і таму ўся мая кроў набягала да носа.

— Мілая, — звярнуўся прынц да Энці, — калі я хоць раз убачу ў тваіх руках іголку, я ўцяку ад цябе за тысячу міль!

Папраўдзе, мае мілыя дзеці, хаця гэтая гісторыя і забаўная, мараль у ёй зусім няправільная!

І калі хто-небудзь з вас будзе браць прыклад з лянівіцы Энці, самі ўбачыце: вам ужо так не пашанцуе, як ёй. Па-першае, яна была вельмі прыгожанькая, а па-другое, ёй дапамагалі ўсёмагутныя феі. Цяпер феяў няма, няма і прынцаў, якія праязджаюць міма і забіраюць вас з сабой, ці працавітыя вы, ці лянівыя. І, па-трэцяе, яшчэ невядома, ці такія ўжо шчаслівыя былі прынц і сама Энці, калі яны сталі дарослымі і на іх абрынуліся жыццёвыя клопаты і цяжкасці.

# У Італію з „рускімі” танцамі

Быў год 1945, калі прыватная харэаграфічная студыя, заснаваная балетмайстрамі Тамарай і Кірылам Янушкоўскімі, стала дзяржаўнай балетнай школай у Беластоку. Ад 1972 года школа знаходзілася ў складзе комплекса мастацкіх школ.

У выніку рэформы ў студзені 1999 года балетная школа апынулася на ўтрыманні самаўрадавых улад і ў верасні пачне дзейнасць як самастойная адзінка.

У мінулым навучальным годзе 98/99 у школу хадзіла 312 вучняў ва ўзросце ад 7 да 15 гадоў і было там 14 класаў. На гэтую колькасць вучняў у школе працуюць тры педагогі і тры акампаніятары, ды ёсць толькі адно піяніна і адно фартэпіяна. Шмат выпускнікоў беластоцкай балетнай школы ідзе вучыцца далей — у вышэйшыя харэаграфічныя школы. Ёсць сярод іх салісты найвялікшых балетных сцэн (як хаця б Эдыта Казак — салістка Вялікага тэатра ў Варшаве). Ёсць выпускнікі беластоцкай школы ў Музычным тэатры ў Кракаве, Бытоме ды на іншых вядомых сцэнах. А што ўжо гаварыць пра беластоцкія „Курпі зялёныя”! Беластоцкая балетная школа з'яўляецца для іх невычэрпнай крыніцай талентаў.

Балетная школа пастаянна супрацоўнічае з Беластоцкім драматычным тэатрам імя Адяксандра Вянгеркі. Яе вучні часта бяруць удзел у розных прадстаўленнях у тэатры. Таксама выязджаюць яны за граніцу: выступалі ў Літве, у Беларусі і ў Італіі.

Беластоцкая балетная школа не замыкаецца сама ў сабе. Кансультавалі вучняў такія вядомыя харэографы, як Ларыса Ляшэнка з Мінска, Аляксандр Абрыталін з Пецярбурга, Вітальд Груца ці Жана Юрэўная з Пецярбурга, з вучнямі якой школа наладзіла нават супольны канцэрт.

Штогод у тэатры імя А. Вянгеркі адбываюцца канцэрты вучняў балетнай школы. Сёлета такі канцэрт адбыўся 13 чэрвеня. І было з чым паказацца! Былі народныя танцы („мазур”, „малдаўскі”, „рускі танец”, „куявяк”, „кракавяк” і іншыя) у асноўным у апрацоўцы Пятра Янушкоўскага (сына заснавальнікаў школы Тамары і Кірылы Янушкоўскіх). А ў другой частцы была „Дзіцячая рэвія”, большую частку якой апрацавала дырэктар школы Гражына Петшак.

У маі 1997 года ў Беласток прыехаў бізнесмен Лорыс Гарыбольдзі. Пётр Янушкоўскі запрасіў яго на канцэрт вучняў балетнай школы. Італьянскаму бізнесмену надта спадабаліся фальклорныя танцы. Праз некалькі месяцаў у Італію была запрошана група 20 вучняў, Лорыс Гарыбольдзі аплаціў кошты падарожжа і побыту ў Італіі дзяцей і іх апекуноў.

Лорыс Гарыбольдзі даў некальким вучаніцам школы стыпендыі, каб яны маглі ўзяць удзел у курсах дырыжыравання, або паехаць на конкурс, які адбываўся на Канарскіх выспах.

Калі ў мінулым годзе італьянскі бізнесмен даведаўся, што вучні школы не змаглі паехаць у Пецярбург па той прычыне, што на гэта ім не было прызнана ніякіх сродкаў, ён вырашыў дапамагчы школе. І неўзабаве школе быў падараваны аўтобус, спонсарам якога былі тры італьянцы: Лорыс Гарыбольдзі, Франка дэ Пілаці і Жульяна Кантэрна.

І зноў прыйшло запрашэнне ў Італію. Як паінфармаваў нас Пётр Янушкоўскі, 20 вучняў выступіць у горадзе Ферма (у сярэдняй Італіі) два разы: першы раз — 22 ліпеня — гэта будзе marketino (выступленне на вольным паветры), а другі раз — 24 ліпеня — у тэатры Wila Witali.

Вучні выступяць з дзесяццю танцамі — пяць з іх гэта польскія танцы, і пяць — „рускія”, сярод якіх апынуўся украінскі „гапак” і беларуская „мяцеліца”.

Я нясмела запыталася ў Пятра Янушкоўскага, ці праўда, што, як гаварылася на прэс-канферэнцыі, італьянцы прасілі прывезці ім рускія танцы.

— Вядома, — адказаў Пётр, — а нават перш за ўсё. У свеце значна лягчэй быць рускім, чым палякам.

**Ада Чачуга**

# Перад другім 500-годдзем

Гарадок свой велічны юбілей 500-годдзя адзначаў у верасні мінулага года. Святкавалі тады чатыры дні. І так гэта спадабалася жыхарам, што сёлета рашылі хоць частку юбілейных мерапрыемстваў паўтарыць.

— Летась завяршылі мы першае паўтысячагоддзе, а сёлета ўваходзім у другое, — сказаў намеснік дырэктара Пачатковай школы ў Гарадку Лявон Матыс.

Арганізатарамі сёлетняга свята, якое прайшло ў нядзелю 20 чэрвеня былі якраз гарадоцкія школьнікі і Гмінны асяродак культуры. Вучні арганізавалі вулічны парад і паказалі сцэны з гісторыі мясцовасці. Дом культуры запрасіў у Гарадок мастацкія калектывы, між іншым: духавы аркестр чыгуначнікаў з Лапаў, які адкрываў парад і беларускія спявачкі Любу Гаўрылюк з Козлікаў ды яе дачку Алу Дубец з дзявочым калектывам „Каласкі” з Беластока. Сваёй публіцы запрэзентаваўся таксама гарадоцкі калектыў „Асенні ліст”, які тры гады таму заснавалі мясцовыя пенсіянеры. Калектыў узначальвае інструктар музыкі Гарадоцкага асяродка культуры Янка Карповіч. У яго рэпертуары пераважна беларускія песні з аколіц Гарадка. Спевакі ў калектыве таленавітыя, галасістыя і трэба мець надзею, што неўзабаве стануць яны такімі вядомымі, як іх калегі з „Рассяпяванага Гарадка”.

А Гарадок можа і ў будучыні, без юбілеяў будзе арганізаваць падобныя вулічныя святы, падчас якіх ёсць месца на гульню і на хвіліну задумы над сваёй мінуўшчынай.

**(ак)**

# Рассяваны амфітэатр

У суботу, 19 чэрвеня г.г., у гайнаўскім амфітэатры па вул. Парковай з канцэртам выступіў вакальна-інструментальны фольк-гурт „Чарамшына” з Чаромхі. Гэты маладзёжны калектыў спявае ды іграе на балалайках, цымбалах, сапілках, бубне і акардэоне. Ён шырокавядомы не толькі ў нашым Падляшскім ваяводстве, але і ў гарадах на поўдні Польшчы ды за мяжой нашай краіны, між іншым, у Германіі і Галандыі.

Калектыў выступаў таксама на польскім тэлебачанні, запісаў сваю музыку і песні на дзвюх магнітафонных касетах ды на кампакт-дыску. Шэсць гадоў, ад самага пачатку свайго існавання, працуе ён пад кіраўніцтвам Барбары Кузуб-Самасюк.

Паўтарагадзіннае выступленне „Чарамшыны” спадабалася гледачам. Спявала яна песні на беларускай, украінскай і польскай мовах. Некаторыя з найбольш папулярных песень прасілі ў іх праспяваць яшчэ раз. Мерапрыемства прайшло паспяхова, хаця церушыў дождж і трэба было хавацца пад парасонамі. Хто не меў іх з сабой, крыху змок. Лічыліся песні, любімыя мелодыі. Яны плылі з парку ўглыб горада, зачароўвалі і вабілі прахожых.

**(гай)**

# Абразок з культуры

[1 ☞ працяг]

ды, па тры-чатыры асобы сядзелі дзе хто змог прымасціцца: на мурках і проста на траве каля ракі Белай. Аднак жа і так усіх нас разам з артыстамі было не больш пяцідзесяці асоб.

А ўжо спяваў калектыў „Прымакі”, які на сёлетнім Фестывалі беларускай песні пераможа ў катэгорыі эстрадных калектываў. І Юрка Астапчук, каб развесяліць прысутных, не толькі спяваў, але і сыпаў даволі „салонымі” жартамі.

Канцэрт 19 чэрвеня працягваўся гадзіну. Дзякуй Богу, што хмары, якія ні адтуль — ні адсюль сабраліся над намі і засланілі сонца, так жа гвалтоўна разышліся. Найбольш біў брава нейкі чалавек у мундзіры, з нашыўкай на рукаве: „Augustów”.

А 21 чэрвеня „Gazeta Wyborcza” напісала: „Nie wiadomo, dla kogo zorganizowano natomiast prezentacje kultury mniejszości narodowych. Plac przed Teatrem Dramatycznym świecił dramatycznie pustkami, a zespoły ludowe śpiewały właściwie tylko sobie a muzom”.

Шкада, што падпісаныя журналісты („moż”, „art”) так павярхоўна патрактавалі гэту справу. Несвядомы чытач мог бы падумаць, што сапраўды культура меншасцей у нас нікому непатрэбная. Дык чаму ж тады на такія мерапрыемствы, як Свята беларускай культуры ці Фестываль беларускай песні, прыходзяць **тысячы** людзей?!.

Зрэшты, аглядаючы гадзінны канцэрт толькі „Каласкоў” і „Прымакоў”, міжволі ў галаву прыходзіла думка, што і ў нашай тэлевізіі тое самае. З перадачы „Самі пра сябе” аб жыцці нацыянальных меншасцей ведаем, быццам столькі тут у нас, на Беласточчыне, нацыянальных меншасцей, што для беларускай перадачы застаюцца лічаныя мінуты. А тут аказваецца, што калі трэба выступіць з сур'ёзным рэпертуарам, дык могуць гэта зрабіць толькі беларусы. І мелі б яны чым запоўніць цэлую меншасную праграму TV.

Арганізатар мерапрыемства — Беластоцкі асяродак культуры — звяртаўся да іншых меншасных дзеячаў з просьбай, каб іх прадстаўнікі выступілі на гэтай прэзентацыі, але адгукнулася толькі Беларускае таварыства. Проста яны мелі з чым паказацца.

Ну і што з таго? Высветлілася, што БАК не мае на гэта мерапрыемства **ні граша**, хаця на прэс-канферэнцыі была гутарка аб 130.000 новых злотых, прызначаных на Дні культуры Беластока. Нехта з асяродка культуры „зычліва” параіў: „Калі хочуць паказацца, дык няхай складуцца і прыедуць!” Цікава, ці адважыўся б ён параіць гэта камусьці іншаму...

А потым „стаўся цуд” і імпрэза змагла адбыцца на сходах тэатра і яго пляцы. І нават самадзейнікі мелі дзе пераапрануцца. Шырэйшая інфармацыя пра гэту імпрэзу ў свет, аднак, не пайшла.

Лінія падзелу на „роўных і раўнейшых”, як бачым, становіцца ўсё больш выразнай.

**Ада Чачуга**

# Старыя песні ў новым ваяводстве

Агляд народнай творчасці „Пошукі і пераказ фальклору” Ваяводскі асяродак анімацыі культуры ў Беластоку праводзіць ужо 28 гадоў, прычым шэсць апошніх — у Нараўцы.

19 чэрвеня, аднак, арганізатараў чакалі надзвычайныя выпрабаванні. Са звыш дваццаці запрошаных калектываў у Нараўку прыехала крыху больш паловы. Вядома, сенакосы. Ды і тыя маглі паехаць дахаты ні з чым. Перад пачаткам канцэрта над ваколіцай прайшла бура, падчас якой гром трапіў у трансфарматар і пазбавіў мястэчка электрычнасці. Але невыпадкова мерапрыемства апошнімі гадамі праходзіла ў Нараўцы. Працаўнікі гміннай управы тут жа сцэну над рэчкай Нараўкай падключылі да аварыйнай крыніцы энергіі і канцэрты маглі пачацца з невялікім спазненнем.

— Найбольш цэннае ў гэтых аглядах тое, — сказаў Юзэф Зыськ, інструктар Ваяводскага асяродка анімацыі культуры, — што мы ўвесь час адкрываем новыя творы. Гэта значыць, не цяпер напісаныя, а проста адшуканыя ў старэйшых, нягледзячы на выказванні некаторых людзей, што ў нас усё знойдзенае і ў фальклоры няма ўжо ніякіх таямніц.

Сёлетні агляд у Нараўцы ўпершыню — па прычынах адміністрацыйнай рэформы краіны — не быў ваяводскім. Прынялі ўдзел у ім фальклорныя калектывы з чатырох паветаў: Беластоцкага, Сакольскага, Манецкага і Гайнаўскага. Не было загадзя вызначанай тэматыкі песень. Калектывы спявалі і абрадавыя, і звязаныя з сезонам, і нагул лірычныя. „Цэлы спектр вясковага жыцця ў песні”, — сказаў Юзэф Зыськ.

Шкада толькі, што мала было калектываў, для якіх натуральным рэпертуарам з'яўляецца беларускі фальклор. На „І Прэзентацыях народнай традыцыі Падляшскага ваяводства”, якія пройдуць 22 жніўня ў Цеханоўцы, фальклор Гайнаўшчыны пакажуць толькі „Крыўчанкі” з Крыўца.

Да іх далучыліся яшчэ „Красуні” з Краснага Сяла і калектыў з Маліннік, якія наступнага дня паспяхова прайшлі адбор у Сямятычах для Сямятыцкага і Бельскага паветаў.

Выглядае, што ў новым узбуйненым ваяводстве нават у фальклоры — у што цяжка паверыць — будзем займаць маргінальнае месца.

**М. В.**

# Легенды Падляшша

12 чэрвеня 1999 года ў Гмінным цэнтры культуры, спорту і адпачынку ў Міхалове падведзены былі вынікі IV Ваяводскага агляду безыменнай творчасці Падляшша „У пошуках легенды”. На конкурс дасланых было пяцьдзесят тры легенды, дзевятнаццаць мастацкіх прац, тры ткацкія і пяць рэзьбаў, якія ілюстравалі расказы людзей. У катэгорыі легенда́ў галоўныя ўзнагароды атрымалі: Янка Целушэцкі з Новага Ляўкова, Ірэна Лукша з Гайнаўкі, Віктар Кочук з Чаромхі ды Лешак Нос і Рышард Варобей з Міхалова.

Удзельнікі даслалі працы, якія тычыліся нейкага здарэння, раскрывалі назвы мясцовасцей, урочышчаў ці палеткаў.

— Я ўжо трэці раз прымаю ўдзел у гэтым аглядзе, у мінулым годзе атрымаў другое месца, а сёлета стаў пераможцам, — кажа Янка Целушэцкі. — Збіраў я расказы, якія ўчуў у ваколіцах Ляўкова і Старыны. Спісваю легенды на беларускай і польскай мовах. На беларускай мове спісаў я каля дваццаці легендаў, сярод якіх больш чым дзесяць друкаваліся ў „Ніве”. Апісваю найчасцей здарэнні, пра якія ўчуў у мясцовасцях распаложаных каля ракі Нарвы, пачынаючы ад Цісоўкі ажно да Вышкаў.

**Аляксей Мароз**

# Ікона Гадышэўскай Божай Маці

Самая ранняя згадка пра Гадышэва паходзіць з пачатку XV стагоддзя, калі гэтую мясцовасць насяляла рускае насельніцтва праваслаўнага веравызнання. У 1562 г. тут існавала царква, якую пасля Брэсцкай уніі (1596 г.) перамянілі ва уніяцкую царкву.

Вестка пра Гадышэва паходзіць з 1529 г., калі Андрэіха Бародзіна прадала сваю зямлю Аляксею Яскевічу — бельскаму памешчыку. З апісання Гадышэўскага войтаўства вынікае, што войтам у той час быў Саксон Паско. Паводле „pomieri p. Dziewałtowskiego, prawą stroną idąncz w to siolo od siola Joskow”, было семнаццаць гаспадароў, у якіх было па адной валоцы грунту. Тадышнія гаспадары карысталіся славянскімі імёнамі: „Jeczko, Hrin, Steczko, Ostapko, Anthon, Illiasz, Hapon, Maxim, Mathisz, Stecz, Paweł Ochodko”. Валочная памера на левым баку вёскі згадвае: „Christov pop ruski na cerkwie wolne 1 morg. Na cerkiew Ruską, przi thim siele stoiącą włók 2 od plathu wolne”.



Цяжка вызначыць дату заснавання царквы — у 1563 г. згадваецца „jako z dawno istniejąca”. У падатковых кнігах ад 1578 г. называецца адзін духоўны ў гадышэўскай царкве. Цяжка таксама ўстанавіць год пераходу Гадышэўскага прыхода ва унію, але можна меркаваць, што адбылося гэта ў I палове XVII стагоддзя.

Каталог помнікаў мастацтва ікону Гадышэўскай БМ апісвае наступным чынам: „w wykonanym w 1980 r. marmurowym ołtarzu obraz MB z Dzieciątkiem w typie Hodegetrii, barokowy około 1630 r. konsekrowany przez Jana Rutkowskiego po rewindykacji w 1928 r. ze Związku Radzieckiego i w 1978 r. przez Jerzego Kozłowskiego w Warszawie, malowany na desce, olejny na złotym tle z rytym renesansowo-manierystycznym ornamentem roślinnym w układzie sieciowym oraz okuciowymi kartuszami, w których grecka inskrypcja MATHER THEO, przesłonięty sukienką z zaprawy kredowej na desce wzór sukienki ryty srebrzony i złocony imitujący barokowy haft z I poł. XVII wieku”.

Іконы тыпу Адзігітрыі ў XVI ст. былі распаўсюджаны на Падляшшы, між іншым знаходзіліся яны ў Бельску і Супраслі. Гісторыя іконы Гадышэўскай БМ звязана з легендай, паводле якой з'явілася яна ў лесе на ліпе і пасля была перанесена ў капліцу ў вёску Кеўлакі, але зараз жа адсюль знікла і зноў паявілася на той жа ліпе. Тады на гэтым месцы пабудавана была капліца. Там жа стала выцякаць крыніца з цудадзейнай вадой. Знаходзіцца яна за вёскай, 800 м ад прыхадской царквы. Каплічка паўторна была пабудавана ў 1884 г. і рамантавалася ў 1955 і 1980 гг. У сярэдзіне капліцы знаходзіцца абведзеная бетоннымі трубамі крынічка.

Самае ранняе апісанне царквы паходзіць з генеральнай візітацыі ад 1727 г. Пішацца ў ёй: «cerkiew pod tytułem Wniebowzięcia Panny Maryi... drewniana stara dranicami pobita z kopułą y krzyżem żelaznym... cerkiew szczupła”. Пералічваюцца два алтары з іконай Божай Маці: „ołtarz Naysw. Panny snicerską rznięty z Aniołami z góry koronę trzymaiącymi. Między kolumny z skrzydłami. Ołtarz Wielki na zrębie z obrazem Naysw. Panny snicerskimi sztukateryami accomodowany”.

У царкве заўсёды знаходзіцца тытульная ікона ў гонар нябеснага заступніка. У выпадку Гадышэва была гэта ікона Успення Прасвятой Дзевы Марыі. Па вядомых прычынах у візітацыі не называецца цудадзейная ікона, паколькі праходзіла яна пасля Замойскага сабора (1720 г.), калі было пастаноўлена вывесці з цэркваў іканастасы і іконы візантыйскага або „маскоўскага” стылю. Аднак у візітацыі ўспамінаецца, што „ieszcze się znayduie obrazow roznych dziesięć z Moskiewskimi”. Уніяцкія парохі не мелі магчымасцей адпаведна задбаць пра храм, паколькі былі яны залежныя ад ахвярнасці заснавальнікаў храмаў, якімі былі ўладальнікі маёнткаў. У згаданым дакуменце гадышэўскаму святару вынесены быў папрок за тое, што ікону ўпрыгожыў саламянай рызай („ganimy y to Oycu Hodyszewskiemu za słomianą sukienkę Oblubienicą Świetuiącą Panska na contamptt [пагарду] przyodziewa”).

У 1775 г. была ўзведзена новая царква на плане шасцікутніка, пакрытая гонтай. Апісанне храма паходзіць з 1808 г. У ім згадваецца, што на пабудову ахвяраванні давалі шматлікія паломнікі, якія наведвалі цудадзейную ікону Божай Маці. Паводле апісання, „ołtarz częścią snycerskiej, częścią stolarskiej roboty malowany y wyzłocony na kształt mozaiki, statuami Świętych Pańskich i cherubinami mensa i cyborium z baldachimem teyże roboty. W tym ołtarzu obraz Nayświętszej Maryi Panny na drzewie malowany, słynący cudami od czasów dawnych, w szufladzie i ramach snycerskiej roboty wyzłacanych, zasuwaiący się tablaturą Uśpienia Nayświętszej Maryi Panny, na płótnie malowanym”. На іконе і алтары знаходзілася больш за 200 ахвяраванняў, што сведчыла аб вялікім кульце іконы Гадышэўскай БМ. Прыход налічваў тады 236 вернікаў. У 1866 г. пробашч Банькоўскі напісаў так: „W cerkwi w Hodyszewie znajduje się bardzo piękny cudowny słynący obraz MB z Dzieciątkiem na ręku. Kilka razy do roku lud po kilkadziesiąt tysięcy zbiera się na odpust, szczególnie Rusini z grodzieńskiej guberni i z innych miejscowości oraz z województwa podlaskiego. Odpusty bywały na polskie i ruskie Zielone Świątki po pięć dni trwające na wszystkie święta Matki Bożej”.

З 1875 г. да I сусветнай вайны царква ў Гадышэве зноў вярнулася на ўлонне Праваслаўнай царквы, а пробашч прыняў праваслаўе. Ікона Божай Маці далей заставалася ў царкве. У 1878 г. быў закладзены краевугольны камень пад новую мураваную царкву, а ў 1881 г. яе асвяцілі. Цудадзейная ікона была змешчана ў іканастасе новаўзведзенага храма, каб вернікі маглі ёй пакланяцца падчас набажэнстваў. Побач мураванай царквы ў 1884 г. была пабудавана і асвячана драўляная царква, пры ўзвядзенні якой выкарыстаны быў будаўнічы матэрыял са старога храма.

У 1908 г. выйшла брашура „Сказание о Годышевском приходе, приходском Успенском храме і Годышевской иконе Пресвятой Богородице”. Яе аўтар Н. Адзінцоў адназначна піша, што „самай вялікай каштоўнасцю царквы з'яўляецца ікона БМ, якая аб'явілася ў невядомы час і знаходзіцца ў гадышэўскай царкве здавён-даўна. Шануецца яна мясцовымі жыхарамі і насельніцтвам далёкіх мясцовасцей. Ікона цудоўна напісана, прадстаўляе Божую Маці з Дзіцяткам на руцэ. Намаляваная на дошцы, часткова разбурылася ад старасці і галоўным чынам ад убівання цвікоў для завешвання ахвяраванняў. Ікона памерамі 130 х 105 см пакрытая пазалочанай рызай. Над галавой Марыі — пазалочаная карона з шасцю зоркамі. Дзве найбольшыя і дзве найменшыя ўпрыгожаны брыльянтамі, а дзве сярэднія — брыльянтамі і рубінамі. Над галавой Дзіцятка — таксама пазалочаная карона са срэбным сэрцам на ёй. Ікона знаходзіцца ў залочанай раме з надпісам: «Под Твою милость прибегаем Богородице Дево». У брашуры адзначана, што да цудоўнай іконы Божай Маці прыбывае многа вернікаў, якія атрымоўваюць суцяшэнне. Паломнікі забіралі з сабой іконкі БМ і свячоную ваду з крыніцы.

У храме былі яшчэ тры старажытныя іконы: Ісуса Хрыста на троне (памерамі 2,5 х 2,5 аршына), Міколы Цудатворца на залатым фоне (1,6 х 1 аршын) і Дабравешчання Прасявтой Багародзіцы (3 х 2,5 аршына). Да іконе Дабравешчання была дачэплена плакетка з надпісам „Ave Maria gratia plana”. Славянскія надпісы на ўсіх іконах былі амаль сцёртыя. З ліку колішніх ахвяраванняў увагу прыцягвае келіх з 1762 г. падораны Хведарам Турынам са Старога Корніна. Ахвяраванні звычайна мелі форму сэрцаў, рук, ног, таблічак, быў і крыж з брыльянтамі. У храм паступала таксама царкоўнае абсталяванне і літургічнае начынне ды грашовыя ахвяраванні на ўтрыманне і рамонты царквы.

Падчас I сусветнай вайны ікона БМ была вывезена ў Расію. Пасля атрымання Польшчай незалежнасці пачаліся намаганні за вяртанне цудадзейнай іконы. У 1926 г. ікона вярнулася ў Польшчу і была змешчана ў саборы св. Марыі Магдаліны ў Варшаве. Пасля ўмяшання прэзідэнта Масціцкага, ікона ў 1928 г. вярнулася ў касцёл у Гадышэве. Ранейшы праваслаўны прыход быў ужо ліквідаваны, а царква — праменена ў касцёл. Новы касцёл пабудаваны быў у 1949 г., а з разабранай царквы ўзведзены быў дом паломніка і плябанія. Такім чынам канчаткова былі ліквідаваны матэрыяльныя сляды праваслаўнага прыхода.

Памяць аб іконе сярод праваслаўных захавалася па сённяшні дзень. На другі дзень Святой Тройцы служацца малебны перад копіяй іконы Гадышэўскай Божай Маці. Трэба адзначыць, што пры царкве ў Гадышэве ў 1790-1874 гг. існавала царкоўнае брацтва, адноўленае ў 1881 г. У 1908 г. брацтва налічвала 353 члены з 58 мясцовасцей з ваколіц Бельска, Бранска і Гродзіска.

У 1976 г. апеку над санктуарыем пераняў каталіцкі ордэн палатынаў, а 31 жніўня 1980 г. адбылася каранацыя абраза Гадышэўскай Божай Маці. У лексіконе „Miejsca święte Rzeczypospolitej” ікона апісваецца наступным чынам: „Obraz MB został namalowany przez nieznanego artystę, prawdopodobnie w XVII w. Przedstawiona jest na nim Madonna z Dzieciątkiem, na lewym ręku Jezus pod lewym ramieniem trzyma księgę, prawą zaś dłoń ma podniesioną w geście błogosławieństwa. Cały obraz cechuje wiele elementów charakterystycznych dla wschodnich ikon”. **(агс)**

# Царкоўныя спевы

У рамках Дзён Беластока 20 чэрвеня а гадзіне 16-ай у праваслаўным саборы Святога Мікалая адбыўся канцэрт царкоўнай музыкі.

Выступілі чатыры хоры: **хор прыхода Агія Сафія** ў Беластоку пад упраўленнем пратадыякана Дзмітрыя Ціханюка;

**маладзёжны хор прыхода Святога Духа** ў Беластоку, дырыжор — Багдан Пура;

**маладзёжны хор прыхода святога Мікалая** ў Беластоку, дырыжор — пратадыякан Аляксандр Лысынкевіч;

**хор Праваслаўнага Ардынарыята Войска Польскага** пад упраўленнем дыякана Яўгена Скаўронскага.

У праграме былі такія творы вядомых рускіх кампазітараў, пішучых царкоўную музыку, як „Воскресение Христово видевше” А. Архангельскага, „Святый Боже” П. Часнакова, „Богородице Дево” С. Рахманінава, „Хвалите имя Господне” Г. Самсоненкі і шмат іншых.

Вёў праграму Славамір Назарук. Прысутнічаў на канцэрце і прывітаў сабраных намеснік старшыні Гарадской рады ў Беластоку Казімеж Дудзінскі.

**Ада Чачуга**

# Падабаецца нам БТБ

Мы з жонкай, а таксама нашы аднавяскоўцы шчыра захоплены праграмай Беластоцкага тэлебачання. Нашу ўвагу прыцягваюць не толькі рэгіянальныя тэленавіны, беларускія і царкоўныя перадачы, але таксама цікавыя шматсерыйныя фільмы. Раней мы не прапусцілі ніводнай серыі „Горкага дзядзіцтва”, а цяпер пільна сочым за „Марымар” і „Сэрцам Клярыты”. Такіх фільмаў у тэлебачанні павінна быць больш. На нашу думку, кіраўніцтва Беластоцкага тэлебачання павінна адмовіцца дэманстраваць каўбойскія і парнаграфічныя фільмы.

**Мікалай Лук'янюк**

# Музыкай сплеценыя жыцці

**Пра свой жыццёвы шлях расказвае Вера ВАЛКАВЫЦКАЯ — 74-гадовая пенсіянерка, заслужаны дзеяч культуры.**

*(заканчэнне; пачатак у папярэднім нумары)*

**Пасля нямецкай капітуляцыі**

стала я працаваць у савецкім ваенным штабе перакладчыкам, бо ведала рускую, польскую і нямецкую мовы. Калі закончылася вайна, вярнулася я ў Орлю, на бацькаўшчыну і занялася культурна-асветнай дзейнасцю. У пяцідзесятых гадах накіравалі мяне на працу ў Мельнік, а затым у Сямятычы. Тады па вёсках арганізаваліся народныя спартыўныя згуртаванні (ЛЗС), узніклі фальклорныя калектывы, якія карысталіся падтрымкай каапературных арганізацый. Пасля я вярнулася ў Орлю і стала працаваць у доме культуры. У ім дзейнічаў вакальна-інструментальны калектыў, якім апекаваўся псаломшчык Радзівон Агіевіч. Калектыў, у рэпертуары якога былі беларускія песні, завяваў папулярнасць не толькі ў сваім асяроддзі. Выступаў ён у розных гарадах і мястэчках, а нават у Варшаве, дзе прымаў удзел у цэнтральных дажынках у 1949 і 1955 гадах, ва ўсяпольскім злёце моладзі ў 1952 годзе і сусветным маладзёжным фестывалі ў 1955 годзе.

**З музыкай на працы і дома**

Мая прага навучыцца іграць, якая зрадзілася ў нямецкім палоне, паволі пачала здзяйсняцца. Вучылася я пры дапамозе грамафона, які калісьці бацька прывёз з Масквы. Пускала я адну грамплацінку па восем разоў, пакуль засвоіла правільнае выкананне мелодыі. У 1958 годзе ўдзельнічала я ў культурна-асветных курсах у Супраслі. Там я ўпершыню ўбачыла і пачула Юзафа Янушку, які па-майстэрску іграў на акардэоне. Так прыгожа ён тады зайграў, што ўзрушыў мяне да слёз. Была я тады цяжарнай ды насіла жалобу па бацьку і падумалася мне ў гэты момант, каб здольнасці майго бацькі перайшлі на маё дзіця. Мае мары здзейсніліся ў недалёкай будучыні.

Шаснаццаць гадоў пазней Юзаф Янушка стаў працаваць музычным інструктарам у Орлі ды ездзіў памагаць народным калектывам у наваколлі. Здымаў ён у мяне кватэру. Акампанаваў ён калектывам у Беластоку, Гайнаўцы, Гарадку, Сямятычах, а таксама ансамблю „Курпі зялёныя".

У пачатку 1980-х гадоў мой сын Аляксандр разам з Юзафам Янушкам адкрылі майстэрню па рамонту музычных інструментаў і такім чынам традыцыю дзеда Панцеляймона пераняў ягоны ўнук.

У Гарадку купілі яны ў доме культуры старое піяніна, адрамантавалі яго як след і прадалі дому культуры ў Сямятычах за 45 тысяч злотых. Часта ездзілі яны па вёсках і мястэчках, рамантавалі і строілі інструменты па школах — у Сямятычах, Белавежы, Гайнаўцы... Некаторыя прывозілі інструменты ў Орлю здалёк, нават тады, калі майстэрня спыніла сваю дзейнасць. А сталася гэта тады, калі я перайшла на пенсію, а сын пачаў працаваць дырэктарам Гміннага асяродка культуры.

**Памяць аб маэстра**

Пасля 13-гадовай працы ў Орлі, восенню 1984 г. Юзаф Янушка адышоў на пенсію. Калектыў з таго часу працаваў без інструктара. Адзінокі і хворы Янушка трапіў у дом састарэлых у Лазнях каля Сакалды. Жанчыны з калектыву „Арляне" наведвалі свайго інструктара, які тужыў па Орлі і беларускіх песнях. Незадоўга да сваёй смерці маэстра наведаў Орлю.

Сёння, хаця мінае ўжо 15 гадоў з дня ягонай смерці, памяць аб маэстра Юзафе Янушку жыве сярод арлянскіх самадзейнікаў. І хаця „Арляне" маюць ужо новага інструктара, аднак з сантыментам успамінаюць Янушку.

**У музыкі магутная моц**

Яна дапамагае чалавеку жыць, а нават мае аздараўляльную сілу. Хто навучыўся музычнаму майстэрству, застаецца яму верны ўсё жыццё. Мой сын, хаця памяняў прафесію і цяпер працуе ў паліцыі, не парваў кантакту з музыкай. Будучы на паліцыйных курсах у Слупску, давёў тамашняе піяніна да толку.

* * *

Вера Валкавыцкая за заслугі ў распаўсюджванні культуры была ўзнагароджана шматлікімі дыпломамі, адзнакамі і медалямі, у тым ліку Сярэбраным крыжам заслугі (1972), адзнакамі „Заслужаны Беласточчыне" (1984) і „Заслужаны дзеяч культуры" (1988).

**Міхал МІНЦЭВІЧ**

*Фота аўтара*



*Юзаф Янушка.*



*Вера Валкавыцкая іграе на гармоніку зробленым яе бацькам.*

# Зацьменне Сонца — 11 жніўня 1999 года

У Беластоку пачнецца яно ў 11 гадзін, 35 хвілін і 51 секунд, а кончыцца ў 14 гадзін, 10 хвілін і 35 секунд. Сярэдзіна зацьмення наступіць у 12 гадзін, 53 хвіліны і 58 секунд і ў той момант 82,2% дыяметра Сонца будзе закрыта. Лепш відаць будзе зацьменне ў паўднёвай Польшчы, у Кракаве і Катавіцах будзе закрыта 92% сонечнага дыяметра. Цяпер зацьменняў Сонца ніхто не баіцца таму, што ўсім вядома, што гэта арбіта (дарога) Месяца праходзіць між Сонцам і нашым пунктам на Зямлі і Месяц на некалькі хвілін закрывае Сонца. Але не заўсёды так было. У старажытнасці людзі вельмі баяліся зацьменняў Сонца. Напрыклад, нямецкі баварскі кароль Людвіг насмерць спужаўся поўнага зацьмення Сонца, якое здарылася ў 840 годзе і працягвалася больш пяці хвілін. Але часам зацьменне Сонца мела і добрыя вынікі. У 585 годзе да Нараджэння Хрыстовага ў Малой Азіі адбылася бітва паміж войскамі лівійцаў і мідзіян. І раптам, у самы разгар бітвы, наступіла поўнае зацьменне Сонца і настала поўная цемра: абодва войскі пакінулі зброю і кінуліся наўцёкі, кожнае ў свой бок. Прыбыло гэта да доўгага міру паміж тымі народамі, таму што зацьменне Сонца было пракаментавана так: бітва паміж тымі народамі была Богу так непрыемнай, што Ён закрыў сваё аблічча...

На жаль, у наш час ніякія знакі на небе, ні прызывы самых высокіх аўтарытэтаў не змаглі паўстрымаць і ўразуміць натаўскіх заправілаў так, як гэта было зроблена ў старажытнасці з лівійцамі і мідзіянамі, і яны нават у свята Пасхі адважыліся бамбіць маленькую Югаславію...

З прычыны такога ўплыву зацьменняў на паводзіны народаў, многія манархі сталі трымаць прыдворных астраномаў, якія мелі абавязак назіраць неба і прадказваць зацьменні Сонца і Месяца. Але не заўсёды гэтыя спецыялісты спраўляліся са сваімі абавязкамі. Так у 2136 годзе да Н. Х. у Кітаі, падчас панавання імператара Чунг-Канга наступіла зацьменне Сонца, якога прыдворныя астраномы Гі і Го не толькі не прадказалі, але нават за тым зацьменнем не сачылі (падчас зацьмення былі да адключкі п'яныя), за гэта яны былі пакараны смерцю.

У кожным годзе бывае не менш двух і не больш пяці зацьменняў Сонца, але сноп ценю, кіданага на Зямлю, вузкі і таму на адным месцы поўнае сонечнае зацьменне здараецца ў сярэднім раз на 400 гадоў. Няпоўныя сонечныя зацьменні можна аглядаць трохі часцей. Апошняе значнае сонечнае зацьменне мы бачылі ў Беластоку 30 чэрвеня 1954 года каля 13 гадзіны; у час гэтага зацьмення было закрыта (у Беластоку) 98 працэнтаў сонечнага дыяметра, на Сувальшчыне было яно поўным. Каб можна наглядаць сонечнае зацьменне і бачную падчас яго карону Сонца, астраномы ездзяць у тыя месцы зямнога шара, дзе тое зацьменне поўнае. Найдаўжэйшае зацьменне Сонца можа працягвацца не больш 8 хвілін, а звычайна — 2-3 хвіліны. Зацьменні Месяца — вынік таго, што на яго ўпадзе цень Зямлі, бываюць больш рэдка, але бачым мы іх часцей таму, што зацьменні гэты бачны на ўсім паўшар'і Зямлі і працягваюцца яны даўжэй — да 1 гадзіны і 40 хвілін. Апошні раз маглі мы наглядаць зацьменне Месяца 16 верасня 1997 года. Пачалося яно ў 19 гадзін і 14 хвілін, а кончылася ў 22 гадзіны 20 хвілін.

З часам астраномы навучыліся вылічваць з'яўленне сонечных і месячных зацьменняў на многія тысячы гадоў уперад з дакладнасцю да некалькіх секунд. Такое развіццё навукі дало магчымасць вылічыць, калі былі зацьменні Сонца і Месяца ў мінулых стагоддзях, якімі яны былі: поўнымі ці частковымі і дзе іх можна было наглядаць. Дало гэта магчымасць пазнаць дакладныя даты многіх гістарычных здарэнняў. Напрыклад, асірыйскі летапісец запісаў, што „пры праўленні губернатара Газана ў асірыйскай сталіцы Ніневіі здарылася паўстанне ў месяц Сіван і Сонца зацьмілася". Па просьбе гісторыкаў, астраномы вылічылі, што такое зацьменне Сонца мела месца 15 чэрвеня 763 года да Н. Х. Такім спосабам астраномы памаглі гісторыкам устанавіць даты многіх гістарычных падзей, таму што летапісцы вельмі часта запісвалі і выступленні зацьменняў. У 1887 годзе была апублікавана тытанічная навуковая праца аўстрыйскага астранома Тэадора Опальцера (Theodor Oppolzer), у якой ён абгічыў усе сонечныя і месячныя зацьменні пачынаючы ад 1207 г. да Н. Х. па 2161 год нашай эры, разам 8 000 сонечных і 5 200 месячных зацьменняў. Да падлікаў далучыў ён геаграфічныя карты, на якія нанёс лініі і час бачнасці кожнага зацьмення. Для зацьменняў, успомненых у рускіх летапісах, аналагічныя абгічэнні і карты апрацаваў рускі астраном Міхаіл Анатольевіч Вільеў. Так, напрыклад, у Іпацьеўскім летапісе летапісец запісаў аб паходзе князя Ігара Святаславіча супраць полаўцаў: "Святославич Игорь... поеха из Новгорода (Северского) месяца апреля в 23 день, во вторник, идахуть тихо, собирая дружину. Идущим же к Донцу (реке), в час вечерний, Игорь, воззрев на небо и виде солнце, стоящее яко месяц, и рече бояром своим: видите, что есть знамение сие?" Значыць, Ігар убачыў няпоўнае зацьменне Сонца. З картаў М. Вільева мы адразу бачым, што гэта было зацьменне Сонца 1 мая 1195 года, якое ў Ноўгарадзе, Волагдзе і Яраслаўлі было бачнае як поўнае, а над Данцом, дзе знаходзіўся Ігар — як частковае, серпавіднае, „яко месяц". З гэтага відаць, што летапісец правільна запісаў гістарычныя падзеі. Ігар адправіўся ў паход з Ноўгарада-Северскага 23 красавіка, а 1 мая быў ужо над Данцом. Гэта прыклад, як астраномія памагае гісторыі раскрываць мінулыя здарэнні з жыцця народаў.

Астаецца пажадаць чытачам „Нівы", каб яны, узброеныя элементарнымі ведамі з гісторыі даследавання зацьменняў, прызапашаныя ў цёмныя шкельцы, маглі бесперашкодна назіраць 11 жніўня г.г. зацьменне Сонца.

**інж. Мікалай КАПЧУК**

# Віктарына

Пазваніў званок у дзверы. Адкрыў я, перада мною, не пераступаючы парога, стаў малады чалавек і адразу абрушыў на мяне лівень слоў. Спачатку паведаміў, што яго фірма аб'явіла віктарыну каб заахвоціць людзей да пакупкі прапанаваных ёю тавараў і адразу зачытаў мне пытанне: хто ў тэлебачанні расхвальвае тыя фірменныя тавары — Рын, Фрыдман ці Дрозда. Я калісьці бачыў Фрыдмана, таму і адказаў яму што ён менавіта. Выдатна! — узрадаваўся мой запарожны госць, — выйграў пан заахвочвальную ўзнагароду нашай фірмы вартасцю ў 579 злотаў. І давай мне ставіць цераз парог пакункі: набор незвычайных нажоў, міксер, бесправадны чайнік і яшчэ набор усялякіх адвёртак. Паколькі я аказаўся лаўрэатам, то не трэба мне плаціць 579 злотаў, толькі адно 159! — заявіў ён. А я, як добры дурань, замік усведаміць сабе, што я неяк дагэтуль жыў і без вырабаў вартасцю 579 злотаў, якія цяпер маю непаўторную нагоду купіць за адно 159 злотаў, падумаў так: нажы ў мяне ёсць, але ўсе тупыя і прыдалося б мець такія выдатныя, разнавідныя і вострыя. Міксер то ёсць таксама, але нядаўна, калі збівалася нейкая бакалейная маса, тая маса пранікла ў сярэдзіну міксера і дакладна абляпіла рухавік і ўсе зубчаткі; удалося мне выцерці неяк усё тое, але і так таму міксеру ўжо пара на заслужаны адпачынак, бо ўжываецца ён толькі таму, што нішто не прымушае купіць парадачны. А пра бесправадны чайнік жонка ўжо пару разоў згадвала, што добра было б каб быў. А адвёрткі то мне заўсёды нейкія патрэбныя, хаця дома то хіба няма такога кутка, дзе б нейкая не валялася. І ўзяў я тую ўзнагароду... Хацеў яшчэ перад фінальнай здзелкай паведаміць па тэлефоне жонцы пра такі незвычайны выйгрыш, але яе акурат на працы не было. Прынагодна гандлёвы каміваяжор паведаміў мне, што стараецца атрымаць у фірме пасаду і поспех гэтых стараннях будзе залежаць ад яговых поспехаў у заахвочванні ды папрасіў яшчэ на адмысловым бланку паставіць яму, так як у школе, ацэнку. І яшчэ сказаў, што ў Варшаве ёсць такія хітруны, якія бяруць за такі падарунак аж дзвесце злотаў, а не столькі колькі трэба. І прасіў яшчэ мяне, каб я хаця на рынак, дзеля заробку, не выносіў тых падарункаў...

А калі жонка вярнулася дадому, растлумачыла мне, што я не выйграў, але грошы выдаў. Ну, так, падумалася мне, стараўся я быў асцярожным быць, а тут нешта найшло на мяне і розум адабрала. І так правёў я сабе такі дылетанцкі псіхааналіз і з гэтага майго прасцяцкага даследавання атрымалася, што прадавец абдурыў мяне віктарынай. Я, замік толкам падумаць, пачаў разгадваць, хто па тэлебачанні расхвальвае нейкія вырабы. А разгадваць мне не было неабходнасці, бо, пэўна, што б я ні сказаў, адказ той мой быў бы названы правільным. Але за такі банальны вывад трэба было каб грошы з мае кішэні перавандравалі ў чужую; добра, суцяшаўся я, што не надта многа...

Тры а мо чатыры дні пазней перад маім парогам з'явіліся двое іншых і абнародавалі мне, што іх фірма заахвочвае людзей купляць свае тавары і з гэтай мэтай праводзіць віктарыну. Дзеля выйгрышу трэба толькі ўгадаць адну лічбу: ад нуля да дзевяці. Я назваў нуль. Адзін з іх паказаў мне шэраг лічбаў і папрасіў каб я праверыў, ці названая мною там ёсць; была. І яшчэ папрасіў ён мяне глянуць на таварны код набору нажоў — ці там таксама ёсць тая лічба; там былі аж тры нулі. Ну то ён радасна паведаміў мне, што я выйграў тавары на суму большую за тысячу злотаў. І была яшчэ прымільная гаворка пра іх павышэнне ў працы залежнае ад іх заахвочвальных талентаў. А я, навучаны нядаўнім вопытам, не хваляваўся ўжо іхнімі пытаннямі, толькі ажно цяпер спытаў, колькі за той мой выйгрыш трэба будзе заплаціць. А нічога не трэба будзе плаціць, пачуў я ў адказ, толькі трэба будзе вярнуць фірме кошт заахвочвання мяне (прамоцыі); наогул за тавар плаціць спажывец, а на рэкламу грошы выкладае фірма, а тут усё наадварот — вось фокус! А многа гэта? — пацікавіўся я. Сто дзевяноста дзевяць злотаў. Тут мы і раздзякаваліся.

Я павучыўся на сваёй памылцы. Але можна вучыцца і на чужых. Хай мой прыклад будзе навукай другім, бо, думаю, заахвочвальнікі яшчэ доўга будуць змагацца за свае ўяўныя пасады.

**Алесь Лазоўскі**

# Брыдка і... небяспечна

У Кузаве жыве дзядуля Васіль Д., пенсіянер. Жонка яму памерла, дык старэча дажывае адзінока. Толькі час ад часу наведвае яго знаёмая з Высокага, бо сваякоў ён не прызнае. На сядзібе дзядулі стаіць мураваная летняя кухня і драўляныя стадола ды хатка. Гэтыя будынкі выглядаюць так, быццам бы ніхто імі ўжо не карыстаецца. Саламяны дах хаты і стадолы заваліўся даўно і больш нагадвае руіны, як гаспадарчыя будынкі.

Брыдка і страшна ўсё гэта выглядае. Гаспадар не разумее, што яго хата стварае пагрозу пажару для ўсяе вёскі. Ліхое не спіць, кажуць у народзе. Хто павінен растлумачыць дзядулю, што трэба адрамантаваць руіну: аднаўскоўцы, салэцкая рада ці ўправа гміны?! Мне здаецца, што калі дойдзе да трагедыі — пажару, значыцца — дык запозна будзе займацца прычынай гэтага здарэння.

**(ус)**



# Час задумацца

Закончыўся навучальны год, пачаліся канікулы, самы цудоўны час у жыцці дзецюкоў і школьнай моладзі. Урэшце можна пакарыстацца свабодай і „вышумецца" даволі, забыць пра штодзённыя школьныя заняткі і праблемы з настаўнікамі. Глянем, як да гэтай справы ставяцца маладыя.

Вось прыклад. Нядзеля, 20 чэрвеня 1999 года. Адвячорак. Сяджу на лаўцы каля хаты і раздумваю. Кузаўская вуліца здаецца вымершай. Ні жывой душы! Раптам пачуўся гоман і дзіцячыя лаянкі. Спаглядаю ў гэты бок: трох падросткаў валяецца на дарозе. Спачатку падумалася мне, што яны гуляюць. Але калі адзін з іх падняўся і зноў грымнуўся на абочыну асфальтаванай дарогі, я зразумеў, што ён п'яны. У такім жа відзе былі і два апошнія хлапчукі. Усім ім было не больш як чатырнаццаць-пятнаццаць гадоў. Хвіліну я намагаўся пазнаць іх, але аказалася, што яны не з Кузавы.

Адзін з падросткаў, завесіўшыся на жалезнай браме, прыклікаў дзяўчынку, дачку гаспадара сядзібы, пры якой калаціліся „героі". Калі яна да іх падбегла, я зразумеў, што пэўна гэта яе аднагодкі, выпускнікі пачатковай школы ў Чаромсе. Меркаванні мае здаваліся быць апраўданымі, паколькі ўся кампанія вяла сябе свабодна, як добрыя знаёмыя. Незадоўга ўсе яны разышліся. Мая суседка падалася да сваёй хаты, а хлапчукі папляліся на чыгуначную станцыю.

Як могуць бацькі дазваляць на такое сваім дзецям? Няўжо бацькі не бачылі, у якім відзе вярнуліся дахаты іхнія дзеці? А калі так, дык што сказалі на гэта?

На маю думку, дзецюкі злоўжываюць свабодай. У такім выпадку неабходнае рашучае бацькоўскае слова. І больш кантролю трэба праводзіць над падросткамі. Не толькі ў час школьных заняткаў, але і канікулаў.

**Уладзімір Сідарук**

# ВЕР — НЕ ВЕР

Дарагі Астроне! Мне прысніўся нечаканы сон: быццам я была з папам рымскім у нейкіх людзей і нават гаварыла з ім. Што гэта можа абазначаць — нешта добрае ці дрэннае?

**Эва**

Мне, Астроне, сніўся вельмі цяжкі сон. Не ведаю, мо гэта на змену надвор'я, атмасфернага ціску, бо мне было ўсёй вельмі цяжка. А можа чакае мяне нешта вельмі дрэннае.

Спачатку быццам бы нічога асаблівага не было. Нібы я паехала кудысьці заграніцу. Хаджу, аглядаю прыроду, ваколіцу. Усё мне тут падабаецца, бо я наогул люблю аглядаць нешта не бачанае раней.

Раптам перада мной паявіліся нейкія старыя муры. Падыходжу бліжэй, і бачу суцэльную сцяну з цэглы. Я не магу прайсці далей. Пачынаю ўскараскваццa на яе, чапляюся за цагліны, адвальваюся назад, ізноў лезу. Ну, дальбог, мусіць, не ўзлезу. Бачу, нейкае дрэўца вырастае з гэтай сцяны. Быццам карлікавая сасна. Я чапляюся за гэтае дрэўца, мо яно мяне выратуе. А тут бачу: з гэтага дрэўца выпаўзае гадзюка. Я адчуваю проста дзікі страх. Тое, што мела быць маім ратункам, аказалася яшчэ горшым, чым я думала. На шчасце, я ў гэты момант прачнулася. Не звалілася і гадзюка мяне не ўкусіла.

**Жанэта**

Эва! Твой сон гаворыць аб тым, што проста ты будзеш мець нагоду правесці філасофскую размову з нейкім вельмі разумным, цікавым чалавекам. Калі б табе прысніўся свяшчэннік, то гэта абазначала б тое самае.

Жанэта! Твой сон сведчыць аб тым, што ў тваім жыцці будуць праблемы. Спачатку ён гаварыў за тое, што твае справы будуць ісці на паляпшэнне. Неспадзявана ўзнікшая перад табой сцяна, па якой ты караскалася, сведчыць аб цяжкасцях у дасягненні мэты. Тая гадзюка гаворыць аб фальшывых сябрах, якія „прыслужацца" табе.

**Астрон**

# Прапанова не толькі беспрацоўным

У гэтым годзе ў нашай краіне пачала ажыццяўляцца страхавачная рэформа, у выніку якой грамадзяне атрымалі магчымасць застрахаваць сябе ў любой айчыннай або замежнай страхавачнай кампаніі. Ад некалькіх месяцаў на нашым рынку дзейнічае больш дзвaццаці страхфондаў, якія намагаюцца дайсці да сваіх патэнцыяльных кліентаў, а дзеля гэтага патрэбны ім страхавыя агенты. Беластоцкае аддзяленне Страхавачнага таварыства Nationale Nederlanden Polska S.A., якое дзейнічае ўжо на еўрапейскім рынку 150 гадоў, вядзе набор ахвотных да працы ў якасці страхагентаў. Ад кандыдатаў ва ўзросце 30-50 гадоў патрабуецца вышэйшая або сярэдняя адукацыя ды жаданне памяняць папярэднюю прафесію і працаваць сярод новых людзей. Дэталёвыя інфармацыі можна атрымаць у Томаша Волка у гадз. 14-16 па тэл. 0604546583.

# Пажарніцкія спаборніцтвы

У Гайнаўцы адбыліся I Павятовыя спаборніцтвы камандаў пажарнай аховы. Удзельнічала ў іх 160 добраахвотнікаў з чатырох гмінаў Гайнаўскага павета.

Першынство заваявала каманда добраахвотнікаў з Кляшчэляў, а другое і трэцяе месцы — каманды ОСП з Чаромхі і Новага Корніна (Гайнаўская гміна).

Сярод маладзёжных камандаў найлепш запрэзентавалася ОСП з Чаромхі (I месца), якая апярэдзіла ОСП з Кляшчэляў (II месца) і ОСП з Махнатага (III месца). Пераможцы атрымалі крышталёвыя кубкі і дыпломы, а таксама абмундзіраванне. Прызы ўручылі старшыні Ваяводскага праўлення ОСП у Беластоку — Аляксандр Усакевіч і Павятовага праўлення ОСП у Гайнаўцы і адначасова войт Дубіцкай гміны — Анатоль Паўлоўскі.

Ахвяравальнікамі ўзнагарод былі Ваяводскае і Павятовае праўленні Саюза ОСП, фірма „ТОП-Сервіз" з Гайнаўкі ды Прадпрыемства супрацьпажарных паслуг з Бельска-Падляшскага.

**(гай)**

**Ніва** ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

**Выдавец:** Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня:** Яўген Мірановіч.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 149.
**Тэл./факс:** (0 85) 743 50 22.
**E-mail:** niwa@kurier-poranny.com
**Internet:** *(wydanie elektroniczne w przygotowaniu)*

***Zrealizowano przy pomocy finansowej Ministerstwa Kultury i Sztuki.***
**Галоўны рэдактар:** Віталь Луба.
**Сакратар рэдакцыі:** Аляксандр Максімюк.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Міраслава Лукша, Аляксей Мароз, Ада Чачуга.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.

**Камп'ютэрны набор:** Яўгенія Палоцкая, Марыя Федарук.
**Друкарня:** „Orthdruk", ul. Składowa 9, Białystok.
Teksty przesyłane redakcji do druku pocztą elektroniczną powinny być dołączone do listów w postaci plików typu .RTF (Rich Text Format). Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

***Prenumerata:***

1. Termin wpłat na prenumeratę na IV kwartał 1999 r. upływa 5 września 1999 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. podlaskiego i oddziały „Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na IV kwartał 1999 r. wynosi 15,60 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę pocztą zwykłą — 35,55; pocztą lotniczą Europa — 44,15; Ameryka Płn., Płd., Środk., Afryka, Azja, Australia — 61,15. Wpłaty przyjmuje „RUCH" S.A. Oddział Krajowej Dystrybucji Prasy, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa. Nr konta PBK S.A. XIII Oddział Warszawa 11101053-16551-2700-1-67.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 2,30 zł, a kwartalnie — 29,90 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa", Białystok, ul. Zamenhofa 27, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 11101154-207917-2700-1-65.

# Ніўка




Мал. Алеся СУРАВА („Замалёўкі з Беларускай «натуры»")

*Напрягаться надо, каб аж пуп трашчаў...*

## Пра справядлівасць

Адным з першых вядомых суддзяў быў біблейскі Самсон. Заступаўся ён за свой народ і судзіў філістымляняў. Аднойчы злавіў ён трыста лісіц, прывязаў ім да хвастоў паходні, падпаліў іх і пусціў на філістымлянскія палі і вінаграднікі. Пасля аслінай сківіцай забіў тысячу чалавек. Суддзя гэты меў буйную шавялюру і любіўся з кім папала. Пазней, напрыклад у эпоху Людвіка XV, суддзі ў Англіі і Францыі таксама прыкідваліся даўгаваласымі і апраналі парыкі.

У сённяшні час, калі суддзям дазволена падстрыгацца, страцілі яны колішнюю павагу як Самсон сілу. Напрыклад, нядаўна ў Расіі суддзі прыгаварылі аднаго маладзёна, Алёшу, да сямі гадоў турмы. Маладзён гэты выстраліў у сваю дзяўчыну, Таню, у галаву са страляючай ручкі і каб не хібіў пару міліметраў быў бы ёй каюк. Аднак хібіў і дзяўчына праз нейкі час адхаялася на рэанімацыі ў бальніцы і на судзе заявіла, што віноўны не ён, толькі яна. Бо ён яе любіць і не ўяўляе без яе жыцця. Прасіла яна суд, каб Алёшу не пазбаўляць свабоды і заявіла пра сваё рашэнне выйсці за яго замуж. Калі суд вынес прыгавор, яна расплакалася:

— Гэта несправядліва, яны не хацелі нас зразумець, не палічылі патрэбным унікнуць у нашы страсці...

Нядаўна Сафі Рыс Джонс у прысутнасці шасцісот знатных сямейнікаў выйшла замуж за прынца Эдварда і стала прынцэсай. Мала таго — яшчэ і ў пасляшлюбнае падарожжа адправілася з ім на нейкае мора. Таня таксама хоча замуж выйсці за свайго Алёшу, і гучнае вяселле згуляць, і на Чорнае мора пасля з любімым паехаць... Але суддзі — бяздушныя! Няма справядлівасці ў нас...

Меркаванне Тані, у адрозненне ад судовага прыгавору, вельмі справядлівае. У яе краіне доўгія гады суддзі ставіліся да людскіх праблемаў вельмі гуманна. Хапіла вось, каб які-небудзь перадавы актывіст-альтруіст пазваніў суддзі па тэлефоне і ветліва папрасіў вынесці нейкі апраўдальны прыгавор у нейкай крымінальнай справе ці пасадзіць каго, хто альтруісту не падабаецца, і суддзі не выпадала аставацца бяздушным.

Нейкія пяць ці дзевяць гадоў таму падчас чэмпіянату свету па футболу нейкі вось такі суддзя вёў матч, у якім адным з сапернікаў была нейкая арабская каманда. У вароты гэтай каманды праціўнікі былі забілі гол і суддзя той паказаў на цэнтр поля, значыць залічыў той гол. Але, махаючы рукою ў напрамку цэнтра поля, заўважыў сярод гледачоў нейкага альтруіста — эміра ці нават шэйха, — які выказваў незадаваленне яго рашэннем. Падбег тады суддзя да таго чалавека, упэўніўся што ён незадаволены і адмяніў сваё рашэнне. Бяздушныя футбольныя законы не дазваляюць такога, але ці ж можна дазволіць каб нейкі просты, звычайны шэйх, уласнік сціпленькага гарэма, абураўся ходам матчу?..

Пры нагодзе варта заўважыць, што найбольш раздражняюць народ менавіта футбольныя суддзі. Амаль заўсёды назначаюць яны пенальці, штрафныя і вуглавыя ўдары не ў той бок, за які выказваецца публіка. А павінны ж яны ведаць, што голас народа — найважнейшы. Перад кожным важным рашэннем павінны яны *посоветоваться* з публікай, а перад канцом матча нават аб'явіць рэферэндум, каб даведацца якое меркаванне народа наконт канчатковага выніку спаборніцтва. А калі ігракі не будуць мець ахвоты ганяцца за мячом, на радасць гледачам, так, як напружваемы кароль Людвік XV ганяўся за маркізай дэ Пампадур, тады суддзя загадае ім *напрягаться*, і чырвонай картачкай прыгрозіць...

Я непахісна перакананы, што не за гарамі такія вось менавіта гуманныя суддзі будуць весці народныя відовішчы. Вось, для прыкладу, калі калгаснікі заміж *напрягаться*, каб аж пуп трашчаў будуць рабіць прыпіскі, тады такі суддзя, нават без шавялюры, зловіць трыста лісоў, прывяжа тым лісам да хвастоў пылаючыя паходні — і ў бульбу!

**Адам Маньяк**

## Крыжаванка



**Гарызантальна:** 3. горад у Індыі з архітэктурным комплексам Тадж-Махал, 8. літаратурнае прозвішча Аляксандра Прушынскага, 9. тоўстая падсцілка для спання, 10. паўднёвы плод, які нагадвае яблык, 11. венскі танец, 13. поўная лёсу ў Сакрата Яновіча, 15. краіна з плошчаю 207,6 тыс. км², 16. водападзел, па якім калісь валаклі судны, 20. сістэма расавай сегрэгацыі, 22. беларускі народны тэатр лялек, 23. сухое рэчышча на пустыні, 27. Альфрэда, парагвайскі дыктатар ў 1954—89 гг. (нар. у 1912 г.), 29. дачка бацькоў, 30. павесіўся за кампанію, 31. сум, туга, 32. высокая гліняная пасудзіна, 33. архіпелаг з Ганалулу, 34. народны паэт у казахаў і кіргізаў.

**Вертыкальна:** 1. пажыўны белы напітак, 2. беларускі народны танец, 4. украінскі казак, 5. Жоржы, бразільскі пісьменнік, аўтар „Какавы" і „Жубіябы" (нар. у 1912 г.), 6. сплаў жалеза з вугляродам, 7. узброеная барацьба паміж дзяржавамі, 12. забарона на карыстанне, 14. горад на Гродзеншчыне, 16. прываблiванне звяроў падробленым голасам, 17. гарачая пара года, 18. водная прастора каля марскога берага зручная для стаянкі суднаў, 19. імя Агняцвет, 21. абвінавачаны, 24. бог зла ў зараастрызме, 25. лекар-самавучка, які карыстаецца замовамі і травамі, 26. гарызантальная частка дымахода, якая вядзе ад печы да коміна, 27. сукупнасць прыёмаў работы, дзейнасці, паводзін, 28. амерыканскае зямельнае ўладанне.

**(Ш)**

Рашэнне крыжаванкі складуць літары з пазначаных курсівам палёў. Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 21 нумара**

**Гарызантальна:** мачаха, драніца, Рахіль, Арызона, калапс, абабак, арэшына, трувер, Трапані, скарга.

**Вертыкальна:** адвага, карыта, Кірога, марак, чахол, халоп, асэсар, асыпак, Сталін, барак, бювар, карта.

Рашэнне: **Ларыса Геніюш**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Аляксандру Дабчынскаму** і **Лукашу Пацэвічу** з Беластока.

## Кароткі курс параноі

Страх першы стварыў бога (*Вельзевул*).

*

Смерць страшная не тым, што паміраюць, а тым, што застаюцца (*Эпікур*).

*

Намеснік — чалавек, які кожнай раніцай цікавіцца вашым самапачуццём і чуецца расчараваным, калі даведаецца, што вы добра спалі (*дэ Голь*).

*

Усе мы жывём у свеце ілюзій (*азарэнне павернутага марксіста*).

*

Уладарамі дум сталі футбалісты (*лозунг мысляроў*).

*

Лепш даіць худую карову, чым тлустага быка (*дэвіз знаёмай буфетчыцы*).

*

Гарбатага толькі магіла выпрастае (*пагаворка далакопаў*).

*

Чуем поступ часу і наступ бясчасся (*выснова апошніх магікан*).

*

Чаму так жорстка абыходзяцца людзі з людзьмі? (*здзіўленне шакала*).

*

Кастлявая ўсім нам вядзе свой лік (*дэбетовы запіс*).

*

Вялікі чалавек, які не можа смяяцца з сябе, з'ўляецца малым чалавечкам (*я — С. М.*).

**Сідар Макацёр**

## „Даўціпы" Андрэя Гаўрылюка

— Чаму Бог стварыў жанчын прыгожымі і дурнымі?

— Прыгожымі, каб мужчыны маглі іх кахаць, а дурнымі, каб яны маглі кахаць мужчын.

* * *

— Што павінен мець добры кандыдат на мужа?

— Прыгожыя вялікія вочы па маці і прыгожы новы „Мерседэс" па бацьку.

* * *

Малы Кшысь хваліцца ў школе:

— А я неўзабаве буду мець сястрычку!

— Адкуль ты ведаеш, што будзе сястрычка? — пытае настаўніца.

— Бо ў мінулым годзе, калі мама ляжала ў бальніцы, нам нарадзіўся хлопчык. А цяпер у бальніцы тата.

* * *

— Калі муж быў бы сапраўды шчаслівым?

— Калі б мог рабіць усё тое, у чым падазравае яго жонка.